


У новым дзіцячым садзе № 25 горада Мінска.

Фота А. Дзітлава.



**Улада Советам — мір народам!** Фрагмент карціны мастакоў Д. А. Налбандзяна, В. Н. Басава, Н. П. Мешчанінава, В. А. Прыбылоўскага, М. А. Суздальцава.


# МАЛАДОСЦЬ

**Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!**

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

**№ 8. Лістапад, 1953 год.**

# СВЯТЛО КАСТРЫЧНІКА




Вось і прышло яно, чаканае і радаснае свята Вялікага Кастрычніка! Трыццаць шосты раз над нашай зямлёй велічна запалымнелі сцягі, авеяныя славай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Горда і ўпэўнена нясе савецкі народ сцягі Кастрычніка. Абмытыя крывёю нашых бацькоў і дзядоў, што ў незабыўныя дні семнаццатага года склалі свае галовы за наша з табой, юны таварыш, шчасце, гэтыя сцягі сталі сімвалам новага жыцця, сімвалам комунізма.

Многа цяжкіх выпрабаванняў давялося перанесці нашай Радзіме. І заўсёды і ўсюды вялі наш народ уперад алыя сцягі Кастрычніка. У векапомныя гады грамадзянскай вайны на Волзе і ў Сібіру, на Каўказе і ў Беларусі, у Прыбалтыцы і на Украіне грозна шугалі чырвоныя палотнішчы, узнімаючы народ на бітву супраць белагвардзейцаў і інтэрвентаў. І ніякія сілы не змаглі адолець народ, які сам стаў гаспадаром на зямлі, які спазнаў шчасце свабоднага жыцця.

У гады перадваенных пяцігодак сцягі Кастрычніка вялі нас на новыя здзяйсненні. Яны горда луналі над хвалямі сівога Дняпра, дзе ўзводзілася велічная Днепрагэс, натхняюча развіваліся над волжскімі стэпамі, дзе будаваўся гіганцкі Сталінградскі трактарны, пераможна шумелі над грандыёзнай будоўляй Уралмашбуда, палыхалі полымем над снягамі Магнітагорска і Кузбаса, дзе воляю комуністаў закладваліся базы нашай металургіі і вугалю.

Не аддалі мы на ганьбу Кастрычніцкі сцяг і ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. З ім пераможна прайшлі савецкія палкі ад Сталінграда да Берліна. Гэта ён, Кастрычніцкі сцяг, вёў на подзвіг Зою Касмадзем'янскую і Аляксандра Матросава, Рыму Шаршнёву і Аляксандра Ісачанку, Марытэ Мельнікайтэ і Маншук Маметаву. Шумелі беларускія лясы славаю партызанскіх баёў.

Нібы па эстафеце, ад бацькоў да дзяцей перадаваўся ратны і працоўны гераізм, мужнасць і непахісная энергія, свяшчэнная вера ў цудоўную будучыню.

І гэтая будучыня ўжо азарыла нас сваім прамяністым святлом. Мы ўбачылі яе ў гістарычных рашэннях XIX з'езда Комуністычнай партыі Савецкага Саюза і ў грандыёзных планах пятай пяцігодкі.

Наша будучыня — гэта веліч нашых спраў, гэта размах нашых планаў, гэта запаветныя нашы думы і нашы хвалюючыя імкненні. Пройдземся ў святочныя дні па вуліцах Мінска і Гомеля, Віцебска і Магілёва, Гродна і Полацка. Да сонца бягуць паверхі палацаў-дамоў; поўныя баравога шуму новыя паркі і скверы; нібы песні, звіняць цудоўныя праспекты і плошчы. А паедзь у легендарнае Палессе, а пабудзь на славутых Дрысвятах, а загляні ў апеты ў песнях Панямонскі край! Усюды ты ўбачыш, як над калгаснай зямлёю пад вячаровымі зорамі скрозь разліваецца святло электрастанцый. Гараць залатыя агні над Шчарай і Моўчаддзю, над Сервеччу і Россю, над Ушой і Лошай... Гэта святло Вялікага Кастрычніка!

І поўны радасных пачуццяў, шчаслівы і горды за сваю любімую Савецкую дзяржаву, ты, малады будаўнік комунізма, усклікнеш:

— Дзякуй табе, маці-Радзіма, за ўсё, што дала нам у жыцці!

Незвычайная сёлетняя восень. Яна прынесла многа шчаслівага хвалявання ўсім савецкім людзям, нам, савецкай моладзі. З края ў край ідзе гаворка аб мудрасці нашай партыі, якая прыняла выключнай важнасці пастановы па сельскай гаспадарцы. У гэтых пастановах моладзь рэспублікі ўбачыла ясную праграму нашага далейшага поступу наперад, да комунізма. І колькі маладых сэрцаў загарэлася жаданнем пайсці на самыя адказныя ўчасткі сельскагаспадарчай вытворчасці, каб сваёй натхнёнай працай з чэсцю выканаць пастановы партыі, хутчэй дабіцца магутнага ўздыму ўсіх галін сельскай гаспадаркі!

Першымі падалі голас комсамольцы Мірскага і Старобінскага раёнаў. Ад іх паляцеў заклік разгарнуць усебеларускае спаборніцтва маладых хлебаробаў за далейшае развіццё сельскай гаспадаркі. Ініцыятары спаборніцтва, паказваючы прыклад іншым, ідуць на жывёлагадоўчыя фермы, у брыгады кормаздабывання, ствараюць комсамольска-маладзёжныя брыгады па сіласу, садзяць сады, разгортваюць прапаганду аграномічных ведаў сярод калгаснікаў. Лепшых сваіх сяброў і сябровак яны вылучылі ў вучылішчы і школы ФЗН механізацыі сельскай гаспадаркі.

Пачын ініцыятараў усебеларускага спаборніцтва падхапілі тысячы комсамольцаў рэспублікі. З комсамольскай энергіяй і напорыстасцю моладзь уключаецца ў барацьбу за высокія ўраджаі будучага года, за павышэнне прадукцыйнасці жывёлы, за тое, каб дабіцца высокага матэрыяльнага дабрабыту калгаснікаў.

Бясконцы паток патрыятычных пісьмаў моладзі ідзе ў гэтыя дні ў райкомы і гаркомы комсамола. Горача ўспрыняўшы заклік партыі вярнуцца ў калгасы і МТС, маладыя спецыялісты жадаюць стаць актыўнымі ўдзельнікамі паходу за ўраджай, за ўздым усіх галін сельскай гаспадаркі. Вось яны, першыя пасланцы комсамола Мінска ў вёску — высокакваліфікаваныя спецыялісты: шліфоўшчык трактарнага завода Мікалай Мельнікаў і токар гэтага-ж завода Мікалай Дзёмін, піларамшчык Белтрактарбуда Яўген Новік, кантралёр Станіслава Сіткоўская, фрэзероўшчык Марыя Мухіна і слесары аўтазавода Мікалай Церах і Іван Бабак. Яны атрымалі пуцёўкі на работу ў МТС і калгасы.

Жадаем поспехаў, дарагія таварышы!

На дапамогу маладым хлебаробам выходзяць комсамольцы фабрык і заводаў. Моладзь прадпрыемстваў Бабруйска вырашыла аказаць самую дзейсную дапамогу калгасам вобласці ва ўздыме сельскай гаспадаркі. Яна вырабіць для калгасаў тысячы парніковых рам, абсталюе агратэхнічныя куткі ў калгасах, прачытае сотні лекцый, дасць сотні канцэртаў мастацкай самадзейнасці. Ды ці мала што можа зрабіць наша напорыстая і працалюбівая моладзь! Комсамольцы «Гомсельмаша», Лідскага завода сельскагаспадарчых машын, Мінскага завода «Ударнік» абавязаліся, напрыклад, павялічыць выпуск машын для калгасаў. Яны з чэсцю трымаюць сваё слова. Маладыя зборшчыкі «Гомсельмаша» Васіль Сідарэнка, Анатоль Ермакоў, Сяргей Ушакоў з дня ў дзень перавыконваюць свае планы.

Святло Кастрычніка ўсё шырэй і шырэй абдымае зямлю. У гэтыя дні разам з намі выйшлі на святочныя вуліцы гарадоў і вёсак юнакі і дзяўчаты краін народнай дэмакратыі, вялікай Кітайскай Народнай Рэспублікі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, уся прагрэсіўная моладзь свету. Разам з намі яны заявілі аб сваёй непахіснай волі адстаяць мір на зямлі, не дапусціць новай вайны. Свае позіркі, свае думы і летуценні моладзь усіх краін звяртае да нашага вялікага Савецкага Саюза — сцяганосца міру і дэмакратыі, аплота шчасця і радасці народнай.

Няхай жыве трыццаць шостая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!

---

Міхась КАЛАЧЫНСКІ

## Кастрычніцкі салют

Мы заўжды часіну гэту помнім —
Восень, вечар, прыцемкі кругом...
І — раптоўна сонцаў зыркіх промні,
І — раптоўна стогаласы гром.

Ён не ціхне, мабыць, поўгадзіны
І, як водгук сонечнай вясны,
Ахінае далечы Радзімы,
Думы чалавечыя і сны.

І дрыжаць дрыготай лёгкай долы,
Зоры ў вышыні і ў вокнах шкло.
Дугі скрыжаваныя вясёлак
Над сусветам льюць сваё святло.

У Кітаі, Венгрыі, В'етнаме —
На пяці зямных мацярыках —
Людзі простыя ўстаюць, каб з намі
Поплеч быць у працы ці ў баях.

І заўсёды ў гэтую хвіліну
Сэрцамі мы з роднаю Масквой,
З ёю, велічнай, з усёй краінай
Згадваем мы горад над Нявой.

Чуем у Кастрычніцкім салюце
Шум гарачых бітваў і вятроў,
Водгул пераможны рэвалюцыі,
Воклічы балтыйскіх маракоў.

Першымі ішлі яны праз морак,
Бой са светам ведучы старым;
Па загаду партыі «Аўрора»
Ноччу той салютавала ім.

Не змаўкае гул яе дагэтуль,
Ён нясе старым вякам прысуд.
Коціцца грымотамі па свету
Слаўнага Кастрычніка салют!

# ВЕКАПОМНЫЯ МЯСЦІНЫ



Крэйсер «Аўрора».

Фота К. Смірнова і Г. Валькcона.

**У Ленінградзе, на левым беразе Нявы, стаіць гранітны абеліск. На ім з аднаго боку зроблены контур карабля, а з другога боку чытаем надпіс: «Крэйсер «Аўрора» громам сваіх гармат, накіраваных на Зімні палац, абвясціў 25 кастрычніка 1917 года пачатак новай эры — эры Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі».**

**36 год таму назад, калі апошні аплот буржуазіі — Зімні палац быў акружаны рэвалюцыйнымі войскамі, з «Аўроры» грымнуў гарматны стрэл. Гэта быў сігнал, па якім рабочыя, салдаты і матросы дружна рынуліся на штурм.**

**Цяпер гістарычны крэйсер стаіць ля гранітнага ўзбярэжжа Нявы каля Нахімаўскага вучылішча. Ён перададзены як вучэбнае судно самым юным маракам. Сотні працоўных Ленінграда штодзённа прыходзяць на крэйсер. Кожны прыезджы ў Ленінград лічыць сваім абавязкам зірнуць на яго.**



**Горад быў у цемры ночы. Толькі ў Смольным гарэлі агні. Скрозь асенні халодны туман будынак яго здаваўся незвычайна велічным. У кастрычніцкія дні 1917 года Смольны стаў баявым штабам рэвалюцыі. У адным з пакояў знаходзіўся Ваенна-Рэвалюцыйны Камітэт. Адсюль, са Смольнага, ажыццяўлялася кіраўніцтва ўзброеным паўстаннем. Тут раздавалі зброю.** На здымку: **будынак Смольнага.**



**Ноччу 25 кастрычніка 1917 года ўзброеныя атрады чырвонагвардзейцаў, рэвалюцыйных салдат і матросаў пад кіраўніцтвам бальшавікоў на чале з Леніным і Сталіным штурмам узялі Зімні палац. У дзве гадзіны ночы буржуазны ўрад перастаў існаваць. Міністры былі арыштаваны. Узброенае паўстанне перамагло.** На здымку: **дварцовая плошча і Зімні палац у Ленінградзе.**



**Бранявік каля Музея В. І. Леніна.**

Д. РАМАНАЎ

# У МУЗЕІ РЭВОЛЮЦЫІ

Больш двух з палавінай стагоддзяў стаіць у цэнтры Масквы, на вуліцы Горкага, гэты выдатны помнік архітэктуры. Ён быў сведкам шматлікіх гістарычных падзей, перажыў страшэнныя маскоўскія пажары, помніць, як ганебна ўцякаў Банапарт... Апісанне гэтага будынка можна знайсці ў «Вайне і міры» Льва Талстога, у творах А. С. Пушкіна, прысвечаных Маскве, і ў іншых.

У яго сценах вось ужо дваццаць дзевяць год знаходзіцца Музей Рэвалюцыі СССР.

Музей Рэвалюцыі даўно набыў сусветную вядомасць. За час яго існавання тут пабывала каля пятнаццаці мільёнаў чалавек. У кнізе водгукаў першых наведвальнікаў ёсць такі запіс А. А. Жданава: «Значэнне такіх музеяў для нашай партыі і для падрастаючага пакалення, моладзі, асабліва велізарнае».

У залах музея заўсёды бывае многа моладзі. Яна прыходзіць сюды, каб пачэрпнутыя з кніг весткі аб гераічных падзеях рэвалюцыйнага мінулага папоўніць і ажывіць па шматлікіх экспанатах. У памяшканні музея праводзяцца і зборы піянераў. Яны звычайна адбываюцца ў дні рэвалюцыйных свят, у пачатку і канцы навучальнага года. Урачыста праходзяць гэтыя зборы. Старшы піянерважаты прымае рапарт ад піянерскіх атрадаў. Потым уваходзяць школьнікі, якія жадаюць уступіць у піянеры. Яны ўсхвалявана прымаюць піянерскую клятву, становяцца на калена перад піянерскім сцягам і цалуюць яго. Прынятых у піянеры школьнікаў віншуюць прадстаўнікі грамадскіх і школьных арганізацый.

У заключэнне школьнікаў падрабязна знаёмяць з музеем—скарбніцай Вялікага Кастрычніка. Дзеці з захапленнем, як вялікую ўрачыстасць для сябе, успрымаюць гэтыя зборы.

Музей Рэвалюцыі ў Маскве.
Фота В. Янкова. (Фотахроніка ТАСС.)



Зала музея з экспанатамі, якія адлюстроўваюць падзеі 1904—1905 гадоў.
Фота С. Прэабражэнскага. (Фотахроніка ТАСС.)



...Дыханне гераічнага мінулага наведвальнік адчувае адразу, як толькі міне чыгунную агарожу. На двары музея — першыя рэліквіі Кастрычніка. З цікавасцю агледаюць наведвальнікі шасцідзюймовую гармату, з якой рэвалюцыйныя войскі Лефортаўскага раёна Масквы ў кастрычніку 1917 года абстрэльвалі белагвардзейцаў, засеўшых у Крэмлі.

Па шырокай лесвіцы наведвальнік падымаецца на другі паверх, дзе ў светлых залах сабраны і беражліва захоўваюцца дарагія дакументы, якія адлюстроўваюць гістарычныя этапы рэвалюцыйнай барацьбы ў Расіі з канца мінулага стагоддзя і да падрыхтоўкі і правядзення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Першая зала музея. Яе экспанаты расказваюць аб рэвалюцыйнай барацьбе ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзя. У той час гаспадарамі ў краіне былі памешчыкі і кулакі, фабрыканты і банкіры, жандары і паліцыя.

Дыяграмы, фотаздымкі, карціны расказваюць аб развіцці капіталізма ў Расіі, аб невыноснай эксплуатацыі рабочых капіталістамі і страшэннай галечы сялян. Вось малюнак. На ім мастак паказаў уласніка прадпрыемства, да якога прыйшлі рабочыя за разлікам. Адгароджаны ад іх бар'ерам, тупы, адрузлы гаспадар сядзіць у крэсле самазадаволены і самаўпэўнены. Вочы рабочых гараць нянавісцю да эксплуататара.

Вялікую цікавасць уяўляюць партрэты дарэвалюцыйнага селяніна і вуглякопа — першы рэалістычны паказ людзей працы. Знясіленыя, спакутаваныя твары. Жабрацкае адзенне. Цяжкае мінулае народа відаць з карцін «Перад пакараннем» і «На этапе».

Экспанаты гэтай залы паказваюць барацьбу Леніна за стварэнне марксісцкай партыі ў Расіі. У 1895 годзе ён арганізаваў Пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» — зачатак рэвалюцыйнай пралетарскай партыі ў Расіі. На фотаздымку, які адносіцца да 1897 года, — В. І. Ленін з групай членаў гэтага Саюза. Побач экспаніруецца экземпляр першага выдання кнігі В. І. Леніна «Што рабіць?». Гэты экземпляр належаў Клары Цэткін. Яна падаравала яго музею са сваім аўтографам.

У гады, якія папярэднічалі II з'езду партыі, В. І. Ленін вёў рашучую барацьбу з ліберальным народніцтвам і «легальным марксізмам», з апартунізмам «эканамістаў». Наведвальнікі доўга затрымліваюцца каля фотакопіі рэдкага экземпляра працы Леніна «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супраць сацыял-дэмакратаў», надрукаванага на гектографе. Кніга да канца выкрыла сапраўдны твар народнікаў як фальшывых прыяцеляў народа, якія на справе ідуць супраць народа. У гэтай кнізе, напісанай амаль 60 год назад, Ленін упершыню выказаў ідэю рэвалюцыйнага саюза рабочых і сялян як галоўнага сродку для звяржэння царызма, памешчыкаў, буржуазіі і намеціў асноўныя задачы рускіх марксістаў.

Пад шклом — экземпляр першага нумару газеты «Іскра» за снежань 1900 года. Побач — матрыца адной са старонак газеты. З вялікай цікавасцю знаёміцца наведвальнік з гэтымі гістарычнымі рэліквіямі. Створаная Леніным, агульнаруская марксісцкая газета «Іскра» адыграла вялікую ролю ў барацьбе за стварэнне марксісцкай партыі, у разгроме «эканамістаў», у аб'яднанні сацыял-дэмакратычных гурткоў, у падрыхтоўцы II з'езда РСДРП. Матэрыялы музея паказваюць ролю газеты як цэнтра аб'яднання партыйных сіл, згуртавання іх у агульнарускую баявую цэнтралізаваную партыю з яснай марксісцкай праграмай.

Прыцягваюць увагу дакументы, якія характарызуюць велізарную работу Леніна па падрыхтоўцы II з'езда партыі. Матэрыялы раскрываюць складаную абстаноўку, у якой праходзіў з'езд. Леніну даводзілася прыкласці многа сіл, каб забяспечыць на з'ездзе перамогу «Іскры». Экскурсанты ўважліва знаёмяцца з напісанымі ленінскай рукой дакументамі. Вось парадак пытанняў на II з'ездзе РСДРП, нататкі аб спрэчках па першаму параграфу Статута, праект Статута РСДРП, тэкст другой прамовы Леніна пры абмеркаванні Статута на з'ездзе. З'езд прыняў распрацаваную ленінскай «Іскрай» праграму партыі, у якой ставілася як асноўная задача — барацьба за дыктатуру пралетарыята.

Жорсткую барацьбу выклікала на з'ездзе пытанне аб Статуце партыі, аб фармуліроўцы яго першага параграфа: хто можа быць членам партыі. У сваіх нататках аб спрэчках пры абмеркаванні Статута партыі Ленін падкрэслівае фразу Маркава: «Я жадаю усіх зрабіць членамі партыі: калі хочаце — так». Ленін дае сваю ацэнку гэтай фразе: «Злачынства».

Распрацаванае Леніным упершыню ў гісторыі марксізма вучэнне аб партыі як кіруючай арганізацыі пралетарыята, палажэнні аб цвёрдых нормах партыйнага жыцця былі і застаюцца кіруючымі для нашай партыі.

Шыбеніцамі, катаваннямі царскі ўрад імкнуўся запалохаць рэвалюцыянераў. Вось прылады, якімі катавалі зняволеных: ножныя і ручныя кайданы і скураная сарочка, якую царскія ахоўнікі апраналі на найбольш неспакойных вязняў Саратаўскай турмы. Побач у вітрыне — кісцень чарнасоценца і бізун-троххвостка, якім царскія турэмшчыкі білі зняволеных.



**Зала музея з экспанатамі, якія адлюстроўваюць падзеі 1917 года.**
Фота С. Прэабражэнскага. (Фотахроніка ТАСС.)

Цяжкі быў шлях барацьбы, але гэта не палохала тых, хто ненавідзеў ярмо царызма і капіталізма, хто змагаўся за свабоду, за справу рабочага класа.

Ідэйна ўзброеная і арганізацыйна ўмацаваная, Камуністычная партыя ўзначаліла барацьбу рабоча-сялянскіх мас у перыяд першай рускай рэвалюцыі 1905 года. На карце кропкамі адзначаны гарады, якія былі ахоплены забастовачным рухам у студзеньскія дні 1905 года. У лік іх уваходзяць Шклоў, Мазыр, Пінск, Бабруйск, Барысаў, Валкавыск. У Мінску, Полацку і Гродна адбыліся палітычныя дэманстрацыі, а ў Гомелі і ў Магілёве — сутычкі рабочых з царскімі войскамі.

У музеі выстаўлены ўзоры баявой зброі, з якой у 1905 годзе выйшлі на барыкады рабочыя дружыны Краснай Прэсні. Асаблівую цікавасць уяўляюць наган і бярданка М. В. Фрунзе, які на чале іванаўскіх дружыннікаў прыбыў на дапамогу маскоўскім рабочым. Дакументы, фотаздымкі, пісьмы, карціны мастакоў дазваляюць яскрава ўявіць сабе гераічныя баі пралетарыята Петраграда, Масквы і іншых гарадоў краіны, узброеныя паўстанні ў царскай арміі і флоце, шырокія сялянскія хваляванні таго часу.

Гадам змрочнай сталыпінскай рэакцыі прысвечаны экспанаты чацвертай залы. Асаблівую ўвагу прыцягвае вядомая карціна І. Рэпіна «Царская шыбеніца». Праз густую цемру ледзь бачна мора. У ім плаваюць трупы забітых. На беразе, каля шыбеніцы, асуджаная ахвяра — жанчына. Яна сімвалізуе рэвалюцыйную Расію, якая трапіла ў кіпцюры крывавага тэрору. Жанчына акружана сваімі смяртэльнымі ворагамі — царскімі чыноўнікамі, папом, суддзёй і катам у чырвонай кашулі. Левая рука ката душыць горла асуджанай, а правая — цягнецца да вяроўкі з пятлёю, каб накінуць яе на шыю прыгаворанай да смерці.

Сотні і тысячы актыўных барацьбітоў за рэвалюцыю былі кінуты ў тыя гады ў турмы і сасланы ў ссылку.

У пятай зале наведвальнік знаёміцца з матэрыяламі, якія адносяцца да перыяду рэвалюцыйнага ўздыму 1912 — 1914 гадоў. Тут паказана кіпучая дзейнасць І. В. Сталіна. Уцёкшы з Валагодскай ссылкі, ён нелегальна вяртаецца ў Пецербург і прымае ўдзел у стварэнні рабочай газеты «Праўда», арганізаванай па ўказанню В. І. Леніна. Пад шклом — фотакопія першага нумара «Праўды» з гістарычным артыкулам «Нашы мэты».

Бальшэвіцкія газеты існавалі на капейкі, сабраныя рабочымі. Вялікую цікавасць выклікае квітанцыя на ўзнос грошай у карысць «Праўды» групай рабочых горада Магілёва. Дата — ліпень 1913 года.

1914 год. Расія ўступіла ў вайну з Германіяй. Царскі ўрад вырашыў выкарыстаць вайну для таго, каб разграміць рэвалюцыйны рух, які рос з кожным днём. Але гэтыя планы праваліліся. Матэрыялы паказваюць, як нарастаў у краіне і ў арміі рэвалюцыйны пратэст супраць крывавай вайны, як усё папулярней станавіўся лозунг Камуністычнай партыі аб ператварэнні імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую.

Экспанаты ўваскрашаюць грозныя дні ад лютага да кастрычніка, калі партыя камуністаў разгарнула велізарную палітычную работу на фронце і ў тылу, рыхтуючы працоўных да захопу ўлады.

З эміграцыі вяртаецца Уладзімір Ільіч. На яркім пано мастак адлюстраваў яго выступленне з браневіка на плошчы Фінляндскага вакзала. «Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя!» — кідае заклік вялікі правадыр.

У вітрыне — фотакопіі рукапісу вядомых Красавіцкіх тэзісаў В. І. Леніна. На суседнім стэндзе — дакументы, якія паказваюць, як В. І. Ленін, знаходзячыся ў падполлі, кіраваў праз таварышаў І. Сталіна, Я. Свердлова, В. Молатава і С. Орджанікідзе скліканым нелегальна VI з'ездам партыі, прыняўшым пастанову неадкладна прыступіць да падрыхтоўкі ўзброенага паўстання. «Рыхтуйцеся да новых бітваў, нашы баявыя таварышы» — заклікаюць словы Маніфеста, з якім з'езд звярнуўся да рабочых, салдат і сялян.

З дапамогай партыі развіваўся масавы рух рабочай моладзі. У перадкастрычніцкія месяцы Саюзы рабочай моладзі ўзніклі на заводах Петраграда, Масквы, у прамысловых цэнтрах Урала, Украіны і іншых гарадах.

Фотаздымкі, пратаколы, лістоўкі наглядна расказваюць аб практычнай рабоце членаў сацыялістычных Саюзаў моладзі, якія выступалі як верныя памочнікі партыі ў падрыхтоўцы ўзброенага паўстання народа. Яны распаўсюджвалі ў масах палітычную літаратуру, здабывалі зброю і самі ўступалі ў атрады Чырвонай гвардыі.

Карціна мастака перадае хвалюючую абстаноўку гістарычнага паседжання ЦК партыі 10 кастрычніка 1917 года, дзе прымалася баявая пастанова: узняць сцяг узброенага паўстання!

Перад экскурсантамі ажывае незабыўны 1917 год, калі партыя камуністаў і яе правадыры Ленін і Сталін павялі ў бой велізарныя масы рабочых, салдат і сялян — і перамаглі. Барацьбу за ўстанаўленне савецкай улады на месцах узначалілі выдатныя дзеячы партыі М. В. Фрунзе, К. Е. Варашылаў, С. М. Кіраў, В. В. Куйбышаў, А. А. Жданаў, Л. М. Кагановіч. Крок за крокам разгортваецца карціна Кастрычніцкага паўстання: штурм Зімняга, залп «Аўроры»...

На мазаічнай карціне запальваюцца рознакаляровыя агні. Ярка-чырвоныя ўспыхваюць на квадратах, якія паказваюць Петраград і Маскву. Аранжавым колерам азараюцца геаграфічныя пункты далёкай поўначы, усходу і захаду. Гэтая карта паказвае, як ішло ўстанаўленне савецкай улады на вялікіх прасторах нашай Радзімы.

Экспанаты музея паказваюць таксама барацьбу за савецкую ўладу ў Беларусі. У зале выстаўлены фотаздымак бронепоезда, які прыбыў 2 лістапада 1917 года з Другой арміі на дапамогу рэвалюцыйным сілам Мінскага Савета. Побач вывешаны загад № 1 ад 7 лістапада 1917 года Выканкома Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, у якім абвяшчаецца аб пераходзе ўлады ў рукі Саветаў.

Аб пераходзе ўлады ў рукі Ваеннага Рэвалюцыйнага Камітэта і яго кантролі за дзейнасцю Стаўкі гаворыць загад Магілёўскага Ваенна-Рэвалюцыйнага Савета ад 19 лістапада 1917 года.

У цэнтры залы, прысвечанай Кастрычніцкай рэвалюцыі, прыцягвае ўвагу вялікая скульптурная група «Ленін і Сталін — кіраўнікі ўзброенага паўстання ў кастрычніку 1917 года».

На стэндах апошніх залаў дэманструюцца першыя дэкрэты Савецкай улады, дакументы, якія адлюстроўваюць гісторыю стварэння савецкіх узброеных сіл. Карціны і фотаздымкі паказваюць фарміраванне першых атрадаў рэвалюцыйнага народа, іх выступленне супраць кайзераўскіх палчышчаў, якія рваліся да рэвалюцыйнага Петраграда. Тут экспаніруюцца дэкрэт Савета Народных Камісараў аб стварэнні Чырвонай Арміі і карціна гістарычнай бітвы пад Нарвай, у агні якой нарадзілася Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія.

З вялікай цікавасцю наведвальнікі разглядаюць таксама дакументы, якія адносяцца да V Усерасійскага з'езда Саветаў, першую савецкую канстытуцыю, а таксама асабістыя рэчы, якія належалі першаму старшыні ВЦВК Я. М. Свердлову.

Тысячы людзей актыўна ўдзельнічаюць у папаўненні фондаў Музея Рэвалюцыі. Бясконцы паток падарункаў, што паступаюць сюды з усіх канцоў нашай Радзімы. Адзінаццаць залаў займаюць падарункі І. В. Сталіну. Няма такога горада ў нашай краіне, няма такой краіны ў свеце, адкуль-бы не паступілі гэтыя падарункі. Гэта дары ўдзячнасці Камуністычнай партыі, якая сваім кіраўніцтвам забяспечыла перамогу ў дні Вялікага Кастрычніка, перамогу рэвалюцыі, якая адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва і паказала шлях, па якім павінны ісці працоўныя ўсіх краін.

Багатая экспазіцыя Музея Рэвалюцыі СССР дапамагае ўявіць усю веліч падзей Кастрычніцкіх дзён. Гэта не толькі падарожжа ў мінулае, гэта — знаёмства з гісторыяй і вопытам рэвалюцыйнай барацьбы, гэта хвалюючы летапіс гераічнай гісторыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якая правяла наш народ праз буры трох рэвалюцый, каб дабіцца сусветна-гістарычных перамог, сведкамі якіх мы з'яўляемся.

Музей Рэвалюцыі — своеасаблівая школа жыцця. Маладыя савецкія людзі паўней пазнаюць тут гераічную барацьбу старэйшага пакалення рэвалюцыянераў і яшчэ выразней бачаць і адчуваюць, якая прасторная для шчасця наша цудоўная Радзіма.

**У адной з залаў музея.**
Фота Н. Сітнікава. (Фотахроніка ТАСС.)



Валянцін БЫЧКО

# ПЕРШАЕ ПАКАЛЕННЕ

Да 50-годдзя з дня нараджэння А. Бойчанкі



**Аляксандр Бойчанка.**
З партрэта работы мастака А. Рэзнічэнкі.

У лістападзе 1903 года ў сям'і чыгуначнага слесара на кіеўскай рабочай ускраіне — Дзямееўцы нарадзіўся сын Аляксандр.

Маленства Аляксандра праходзіла ў цяжкі час. Лютавала рэакцыя. На Усходзе завязалася крывепралітная вайна з Японіяй.

Заработку бацькі нехапала нават на хлеб, але гэты нястомны працаўнік цвёрда вырашыў вучыць сваіх дзяцей, каб хоць крыху аблегчыць іх жыццё ў будучым.

На восьмым годзе жыцця Аляксандр пайшоў вучыцца ў чыгуначную школу.

Вучыўся хлопчык добра, бо разумеў, што бацька стараецца з апошніх сіл, каб толькі ён мог карыстацца такім шчасцем, як школа.

Прайшло пяць год — і Аляксандр ужо вучыўся ў Вышэйшым пачатковым вучылішчы. Радаваўся бацька, радаваўся і сам Аляксандр: вучыцца ў такім вучылішчы — было амаль неажыццявімай марай для сына простага слесара.

Пачалася імперыялістычная вайна. Жыццё станавілася ўсё цяжэйшым, ды хлопец упарта прадаўжаў вучыцца.

Кастрычніцкую рэвалюцыю Аляксандр Бойчанка сустрэў чатырнаццацігадовым падлеткам, які ўжо добра разумеў сэнс падзей. Усёй душою ён радаваўся рэвалюцыі, звязваючы з ёю ўсе свае мары і надзеі.

Грамадзянская вайна прынесла новыя цяжкасці: голад, холад, разруху. У 1919 годзе Аляксандр вымушаны быў пакінуць вучобу і пайсці на заработкі. Працаваў на лесанарыхтоўках: дровы патрэбны былі краіне не менш, чым хлеб. Цяжкая фізічная праца не палохала Аляксандра, не скардзіўся ён і на малы хлебны паёк. Ён-жа працаваў для сваёй краіны, для народа!

Працуючы на лесанарыхтоўках, Аляксандр Бойчанка ўступіў у комсамол. У той час юнак многа і прагна чытаў. Кнігі Леніна і Сталіна накіроўвалі яго на правільны шлях, вучылі жыць і змагацца. Пачалося яркае, рознастайнае жыццё. Днём — работа, вечарам — самаадукацыя, ноччу — служба ў часцях асобага назначэння. Праца, адукацыя і барацьба зліліся ў адно цэлае. Так патрабавалі партыя і народ. Так падказвала юнаку сэрца.

Праз год пасля ўступлення ў комсамол Аляксандр Бойчанка быў ужо выбраны сакратаром комсамольскай ячэйкі.

Маладая совецкая краіна жыла напружаным жыццём. Трэба было аднаўляць разбураную вайной гаспадарку і адбіваць напад шматлікіх ворагаў. Аляксандр Бойчанка прымае ўдзел у ліквідацыі бандытызма, суровай рукой карае ворагаў народа. У 1923 годзе яго прымаюць у рады Комуністычнай партыі.

Комуніст Бойчанка яшчэ з большай энергіяй бярэцца за работу. Ён кіруе прфсаюзнымі арганізацыямі ў Кіеве і на станцыі Круты, а потым партыя зноў пасылае яго да комсамольцаў, даручаючы кіраваць спачатку Сталінскім райкомам ЛКСМУ горада Кіева, а потым — акруговым камітэтам комсамола.

У ліпені 1929 года комсамольцы Украіны аказваюць Аляксандру Бойчанку высокае давер'е: выбіраюць яго сакратаром ЦК ЛКСМУ. На вачах усёй моладзі Украіны, на вачах народа вырас і ўзмужнеў гэты баявы юнак, які прайшоў шлях ад простага рабочага да кіраўніка моладзі рэспублікі.

Сакратар ЦК Аляксандр Бойчанка ўспрыняў сваё назначэнне як вялікую адказнасць перад совецкай моладдзю, перад партыяй. Ён не замыкаецца ў сценах кабінета, ён скрозь і ўсюды з моладдзю. Сёння яго бачаць у шахтах Данбаса, на Днепрабудзе, заўтра ён — сярод сельскай моладзі. Сакратара ЦК цікавіць усё, што датычыць моладзі: яе работа, настроі, думкі, быт. Для яго няма дробязей. Усё важна, усё патрэбна, калі гэта на карысць справе, калі гэтым цікавіцца і жыве моладзь.

У час адной з паездак у Данбас Аляксандр Бойчанка захварэў. Хвароба аказалася сур'ёзнай і працяглай і надоўга прыкавала яго да ложка. Але Бойчанка і тут не здаецца. Ён пачынае многа чытаць і давучвае тое, чаго не паспеў вывучыць за папярэднія гады свайго суровага жыцця.

Але адна вучоба не задавальняе нястомнага Аляксандра Бойчанку. Яму хочацца сваёй працай прыносіць карысць не толькі сабе, але і другім. І ён пачынае працаваць рэдактарам выдавецтва, дапамагае маладым аўтарам.

І тут у яго самога ўзнікае рашэнне напісаць кнігу пра моладзь свайго пакалення, пра смелых і мужных людзей — тварцоў новага жыцця, пра партыю і комсамол.

Дні і ночы абдумвае ён план кнігі. Перад ім паўстаюць карціны перажытага; як жывыя, стаяць перад вачыма сябры, паплечнікі па барацьбе. Нараджаюцца першыя словы, напоўненыя цеплынёй і бадзёрасцю.

Работа над кнігай суправаджаецца жорсткай барацьбой з хваробай. Бывалі дні, калі здавалася, што сэрца не вытрымае такога велізарнага напружання. Але Бойчанка знаходзіў у сабе новыя сілы і прадаўжаў працаваць над кнігай. Закончыўшы першую частку, ён без перадышкі бярэцца за другую.

З усіх канцоў краіны пачынаюць прыходзіць першыя пісьмы чытачоў. Яны радуюць і натхняюць пісьменніка, надаюць яму сілы. У гутарках з сябрамі і знаёмымі, у пісьмах да чытачоў Бойчанка патрабуе аб'ектыўнай ацэнкі свайго твора, не хоча ніякіх скідак на цяжкі стан здароўя, на складаныя ўмовы работы. Усякую справядлівую крытычную заўвагу ён прымае з удзячнасцю, яшчэ і яшчэ раз перарабляе асобныя раздзелы аповесці.

У час работы над трэцяй часткай адбыўся новы прыступ хваробы. Пісьменнік спяшаецца закончыць свой твор, але сілы пакідаюць яго. 30 мая 1950 года Аляксандр Бойчанка памёр.

...І вось перад намі яго кніга. Проста і ўсхвалявана расказвае яна аб першых гадах Совецкай улады ў Кіеве, аб фарміраванні характараў маладых людзей у суровай і бязлітаснай барацьбе з ворагам, у пераадоленні цяжкасцей.

Аповесць «Маладосць» можна назваць творам, які ўсебакова малюе цэлы перыяд у жыцці нашай дзяржавы — перыяд станаўлення совецкай улады, перыяд барацьбы за замацаванне заваёў Кастрычніка. Сіла твора А. Бойчанкі — у яго высокай ідэйнасці, у яго страснай, баявой партыйнасці.

Аб кожнай падзеі, аб кожным учынку сваіх герояў пісьменнік расказвае з усхваляванай зацікаўленасцю, з гарачай прыхільнасцю да людзей і да той справы, за якую яны змагаюцца.

У аповесці многа персанажаў. Перад намі паўстаюць і вопытныя партыйныя кіраўнікі, як Сафрон Іскраў, і адданыя сыны Комуністычнай партыі, як Васіль Байчук, і людзі, якія на старонках аповесці вырастаюць у буйных дзеячоў, як Вадзім Радына.

Усе героі аповесці — жывыя людзі, з ярка акрэсленымі характарамі, з той глыбокай мастацкай канкрэтызацыяй, якая ўласціва толькі сапраўдным творам мастацтва.

Найбольш яркім вобразам твора з'яўляецца вобраз Сафрона Іскрава. Комуніст, бязлітасны ў сваёй нянавісці да ворагаў, любімы кіраўнік мас, чулы ў адносінах да сяброў, пяшчотны і клапатлівы ў адносінах да жонкі і дзяцей, разумны і энергічны, — вось галоўныя рысы Іскрава. Пісьменнік мала радкоў прысвячае аўтарскай характарыстыцы Іскрава, як, між іншым, і характэрыстыкам іншых герояў. Характар героя выяўляецца ў дзеянні.

Вельмі цікавы вобраз Васіля Байчука. Сімпатыю чытача ён выклікае сваёй рашучасцю, сваім прыродным розумам, летуценнасцю і адданасцю справе партыі.

Разважлівы і нетаропкі Вадзім Радына падабаецца чытачу з першага свайго паяўлення на старонках аповесці. Яго вобраз поўны глыбокай унутранай сілы, крыштальнай чысціні. Праўдзівы і справядлівы, Радына не ведае кампрамісаў са сваім сумленнем.

Свае, непаўторныя фарбы знаходзіць пісьменнік і для іншых персанажаў твора.

Сюжэт аповесці развіваецца дынамічна і трымае чытача ў пастаянным напружанні. У ёй няма нічога надуманага, бо пісьменнік ішоў ад жыцця, а не ад загадзя падрыхтаванай схемы.

Трэцюю частку кнігі аўтар не паспеў закончыць. Напісана ўсяго 17 раздзелаў, з якіх трынаццаты і шаснаццаты ўяўляюць сабой хутчэй планы раздзелаў. План шаснаццатага раздзела быў намечаны Бойчанкам за некалькі дзён да смерці.

Мяркуючы па напісаных раздзелах, а таксама па матэрыялах і запісах, падрыхтаваных для работы над трэцяй часткай, Бойчанка хацеў давесці дзеянне аповесці «Маладосць» да канца першай пяцігодкі. Лёс герояў, па задуме аўтара, павінен быў скласціся наступным чынам. Сафрон Іскраў у канцы аповесці павінен быў стаць відным кіруючым дзеячом партыі. Яго жонка Зінаіда Данілаўна ўступае ў партыю і працуе ў жанаддзеле. Радына — цяпер ужо сакратар ЦК комсамола Украіны — паранейшаму сябруе з Іскравым, вучыцца ў яго майстэрству партыйнага кіраўніцтва.

Васіль Байчук, па задуме аўтара, у трэцяй частцы работнік органаў дзяржаўнай бяспекі. У яго расце сын Феліks, названы так у гонар Ф. Э. Дзержынскага.

Многа думаў аўтар і пра лёс другіх герояў аповесці.

Трэцяя частка кнігі, па-сутнасці, ужо склалася ў думках пісьменніка. Заставалася толькі перанесці яе на паперу. Смерць перашкодзіла здзейсніцца задуманаму.

Але і незакончаная, аповесць «Маладосць» — вельмі павучальная. На прыкладзе барацьбы і працы яе герояў наша совецкая моладзь бачыць, якога велізарнага напружання каштавала людзям першага совецкага пакалення перамога і закладка асноў нашага сённяшняга шчаслівага і радаснага жыцця. Аповесць «Маладосць» заклікае чытачоў да гераічнай сумленнай працы, да самаадданай барацьбы за перамогу комунізма.

П. ХАРКОЎ

# Сувораўцы



Сувораўцы ў час перапынку ў фае другога паверху.
Фота Ф. Чэховіча.

У адзін з апошніх дзён жніўня, увечары, многім пашчаслівіла наглядаць хвалюючую карціну. Мінчане сустракалі сувораўцаў, якія прыехалі з загараднага лагера. Ніхто не рыхтаваў гэтай сустрэчы, ніхто не паведамляў пра яе. Але калі стройныя калоны сувораўцаў падыйшлі пад гукі ваеннага аркестра да памяшкання вучылішча, вуліца ўжо была запоўнена народам. Светлымі позіркамі глядзелі ўсе на стройных чырвонашчокіх юнакоў, апранутых у строгую і прыгожую вайсковую форму, поўных маўклівай гордасці і разам з тым ледзь стрыманай, шчаслівай хлапечай жвавасці. І жанчына, што праводзіла іх ласкавым позіркам, сказала:

— Вучыцеся, хлопчыкі, як мага лепш. Каб потым, як Сувораў, камандаваць...

А яе спадарожнік, сівы дзядзька, упэўнена прамовіў:

— Навучацца. Парадак у іх прадуманы.

І сапраўды, увесь вучэбны працэс, усё жыццё выхаванцаў будуюцца так, каб яны, гарманічна развіваючыся, набывалі агульныя веды, агульную культуру, узбройваліся першапачатковымі ваеннымі навыкамі, пранікаліся глыбокім усведамленнем чэсці і славы баявой службы на карысць свайго народа.

Сем гадоў вучобы даюць сувораўцу трывалыя веды па рускай мове і літаратуры, арыфметыцы, алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі, пачатках вышэйшай матэматыкі, прыродазнаўству, хіміі, фізіцы, астраноміі, гісторыі, геаграфіі, замежнай мове, Канстытуцыі СССР і іншых прадметах. Ён займаецца, акрамя таго, ваеннай справай, фізкультурай і спортам, музыкай, спевамі, ручной працай. Да яго паслуг — вучэбныя кабінеты і майстэрні, спартыўная зала і спартыўныя пляцоўкі, метэаралагічная станцыя і астранамічная вежа, вучэбна-паказальны зямельны ўчастак і куток жывой прыроды. Забяспечаны ўсім неабходным для поўнакроўнага жыцця і паспяховай вучобы, акружаны клопатамі камандзіраў, афіцэраў-выхавацелей, ён усебакова развіваецца, становіцца чалавекам культурным, праўдзівым і чэсным, які бязмежна адданы сваёй Радзіме і Камуністычнай партыі.

Такімі жадае бачыць сувораўцаў маці-Радзіма. Такімі штогод выходзяць яны з выпускных класаў шматлікіх вучылішч. Такімі выхоўвае будучых афіцэраў і Мінскае сувораўскае вучылішча.

Капітан Фёдар Якаўлевіч Галаўко наглядае, як суворавец Леанід Шако рыхтуецца да ўрокаў.



...Раніцай, у шэсць гадзін трыццаць мінут, па сігналу ажываюць усе чатыры паверхі гэтага прасторнага памяшкання. І да позняга вечара тут кіпіць строга расплананае і па-юнацку баявое, бурлівае жыццё. Фізкультурная зарадка, туалет, запраўка пасцелі, ранішні агляд, снеданне... У восем гадзін пяць мінут пачынаюцца вучэбныя заняткі. У дзве гадзіны дня — абед, затым адбой, дзённы сон, туалет і да паловы сёмай вечара — вольны час. Самастойная падрыхтоўка да заняткаў — да 10 гадзін вечара. Вячэрняя прагулка. Адбой.

Здаровы і строгі рэжым, прадуманая сістэма навучання сувораўцаў дапаўняюцца рознастайнай культурна-выхаваўчай работай. Гутаркі афіцэраў, масавы спорт, кіно і канцэрты, літаратурныя вечары ўваходзяць у жыццё і быт выхаванцаў усіх узростаў. Тут з асаблівай відавочнасцю праявіліся клопаты Радзімы аб усебаковым развіцці нашага юнацтва. Вельмі ярка гавораць аб гэтым і кароткія, але поўныя глыбокага сэнсу біяграфіі саміх сувораўцаў.

Палажэннем аб сувораўскіх ваенных вучылішчах устаноўлена, што сюды ў першую чаргу прымаюцца сыны воінаў Савецкай Арміі, партызан, савецкіх і партыйных работнікаў, рабочых і калгаснікаў, якія загінулі ў баях за Радзіму. Пазнаёмімся з некаторымі з іх, з біяграфіямі гэтых дзяцей, якія перанеслі цяжкія ўдары лёсу і знайшлі мацярынскую ласку, бацькоўскія клопаты ў нашай адзінай, вялікай савецкай сям'і. Шчаслівы сённяшні дзень выхаванцаў многае скажа нам не толькі пра сістэму сувораўскага навучання юнакоў, але і пра ўсё наша светлае жыццё, у якім няма і не можа быць абяздоленых.

У пятым класе вучылішча выхоўваецца суворавец Валодзя Сарокін — вясёлы пятнаццацігадовы юнак. І цяжка падумаць, сустрэўшы яго ўпершыню, што гэты юнак мала памятае сваю маці, што яго ўдумлівыя праменістыя вочы не паспелі адбіць у памяці жывы вобраз роднага бацькі. Салдат Цярэнці Цярэнцьевіч Сарокін загінуў смерцю адважных на фронце ў 1941 годзе, калі яго сыну Валодзі ледзь споўнілася тры гады. Маці, якая дапамагала партызанам, загінула ад рук фашысцкіх карнікаў.

На ўсё жыццё запомніў Валодзя дзіцячы дом, дзе ён жыў і вучыўся на працягу дзевяці год. І калі ён гаворыць пра таварышаў па дзіцячаму дому, пра выхавацеля Аляксандра Чутко, позірк яго свеціцца асаблівай удзячнасцю і цеплынёй: так бывае, калі гавораць пра родных.

Аб вучылішчы, аб афіцэрах, якія выхоўваюць сувораўцаў, Валодзя Сарокін гаворыць па-армейску стрымана. Ён ужо ўсвядоміў

асновы ваеннага парадку і дысцыпліны, разумее, што слова і дзеянне камандзіра ёсць закон, узор для малодшых. Але важна не толькі гэта. Важна тое, што Валодзя, як і іншыя суворaўцы, разумее неабходнасць і карысць армейскіх строгасцей, патрабавальнасці камандзіраў.

— Афіцэр-выхавацель капітан Бялоў вельмі нас любіць, клапоціцца аб нас, — гаворыць Сарокін, хоць толькі ўчора атрымаў ад яго строгую заўвагу за тое, што сваволіў у час самападрыхтоўкі.

Увесь жыццёвы вопыт Валодзі вучыць яго, што ў суровасці людзей, якія яго выхоўваюць, таксама як і ў іх ласкавасці, закладзены клопаты народа аб юных сваіх сынах. І сёння, з гордасцю носячы мундзір суворaўца, ён імкнецца быць вартым ганаровага свайго прызначэння, каб з часам стаць добрым совецкім афіцэрам.

У многім падобны да Валодзі суворавец Акунёў — таварыш па роце, па аддзяленню, па класу. Ён таксама яшчэ ў маленстве застаўся без бацькоў і выхоўваўся ў дзіцячым доме. Жыў ён там разам з братам Міхасём. Абодвум ім Радзіма адкрыла шлях да ведаў, абодвух паставіла на ногі. Уладзімір прыняты ў суворaўскае вучылішча, Міхась даўно ўжо вучыцца ў рамесніцкім, авалодвае слясарнай справай. Некалькі дзён назад ён прыслаў брату пісьмо, расказаў аб тым, як ён вучыцца, як вучні і рабочыя падвойваюць свае намаганні ў працы на карысць сваёй дзяржавы.

Суворавец імкнецца не адстаць ад брата: па большасці прадметаў у яго выдатныя і добрыя адзнакі. Комсамольцы выбралі Валодзю Акунёва ў члены бюро ВЛКСМ.

У 1941 годзе на Заходнім фронце мужна змагаўся з ворагам палітработнік Барыс Фёдаравіч Казлоў. Ён загінуў у баі, выканаўшы свой абавязак перад Радзімай. З поўнай упэўненасцю можна меркаваць, што Казлоў, успамінаючы перад смерцю свайго трохгадовага сына Сашу, жадаў яму шчасця і верыў, што так яно і будзе...

Так яно і ёсць! Поўны юнацкай энергіі, Саша Казлоў расце мужным і шчаслівым. Ён старанна вучыцца ў сярэдняй школе, а сёлета ўлетку маці Агаф'я Іванаўна правoдзіла яго на камісію па прыёму ў Мінскае суворaўскае вучылішча. Тут Саша ўпершыню даведаўся аб тым, як многа азначае прывабнае слова: «суворавец». І цяпер ён з гордасцю піша ў пісьмах сваёй маці і сястры-васьмікласніцы аб тым, што ён жыве ў выдатным доме, вучыцца ў добра абсталяваным класе, што ён ведае вайсковыя парадкі, а калі аддае чэсць — яму згодна армейскіх правілаў адказвае нават сам генерал.

Камандзір роты, афіцэр-выхавацель, з пахвалой гаворыць пра суворaўца Казлова. Вучыцца ён на «добра» і «выдатна». Праўда, здараецца, што пісьмовыя работы бываюць у яго і няўдалыя. Але трэба бачыць, з якой увагай разглядае Саша сшытак, атрыманы пасля праверкі настаўнікам, як настойліва ён працуе над выпраўленнем сваіх памылак. Ён хоча быць выдатнікам па ўсіх прадметах.

Усёй сістэмай выхавання суворaўцы з першых-жа дзён прывучаюцца да думкі аб асабістай адказнасці. Вось чаму насустрач намаганням настаўнікаў ідзе шырокая ініцыятыва саміх выхаванцаў.

Мы бачылі, як пасля чарговага ўрока ў пятым класе выкладчыка рускай мовы і літаратуры капітана Галаўко акружылі суворaўцы. Некаторыя з іх учора слаба напісалі дыктоўку. І гэта горача ўсхвалявала ўсіх.

— Таварыш капітан, што рабіць, каб хутчэй вывучыцца пісаць без памылак?

Капітан усміхнуўся. Ён ведае, што рабіць. Ён бачыць, што справа пойдзе, калі ў яго столькі баявых, шчырых памочнікаў. На тым-жа тыдні адбыўся дадатковы ўрок па мове.

Праходзячы міма вучылішча раніцай ці ўдзень, часта звяртаеш увагу на здзіўляючую цішыню, якая пануе ў гэтым густа населеным доме. І неяк міжвольна стрымліваеш хаду, імкнешся прайсці ціхенька, нібы ў класах могуць пачуць твае крокі. Там, за каменнымі сценамі будынка, ідзе настойлівая вучоба. Будучыя совецкія афіцэры атрымліваюць асновы агульных і спецыяльных ведаў, асновы вялікай культуры нашага народа.

Многа вытрымкі, такту і майстэрства трэба мець выхавацелю, каб паслядоўна і ў патрэбнай меры прывіваць неабходныя навыкі ўсім узростам — ад старэйшых да самых малодшых. І трэба сказаць, што афіцэры вучылішча спраўляюцца з гэтай нялёгкай задачай. Як і агульныя веды, элементы выпраўкі, строю, вайсковага парадку выкладаюцца тут удумліва, з улікам узросту і магчымасцей кожнага класа. «Вайсковая струнка» спее і развіваецца ў суворaўцаў побач з іншымі ўласцівымі нашай моладзі якасцямі і рысамі. Вось чаму так цудоўна спалучаюцца ў выхаванцаў вучылішча бездакорная страявая выпраўка на занятках і нястрымная хлапчукоўская жвавасць у вольны час, дзелавая стрыманасць у службовых абставінах і бязмежная цікавасць на ўроках.

Аднойчы нам давялося наглядаць страявыя заняткі ў малодшым класе. Усё ішло добра, але самы юны з выхаванцаў час-ад-часу адставаў ад таварышаў, збіваўся з нагі, а потым зусім спыніўся, забыўшыся аб занятках. Прычына была зразумелай: за ім з шчырай зайздрасцю наглядалі «цывільныя» дзеці з суседняга двара. Суворaўцу, вядома, вельмі захацелася бліжэй падыйсці да іх, паказаць сваю баявую выпраўку, сваю прыгожую вайсковую форму.

— Васіль Іванавіч, у строй! — стрымліваючы ўсмешку, загадаў афіцэр-выхавацель.

Суворавец у той-жа час стаў у строй. Праўда, праз некалькі мінут здарэнне паўтарылася, але яно не пакідала непрыемнага ўражання. Наадварот, кідалася ў вочы метадычная настойлівасць выхавацеля, кідалася ў вочы таксама, што ў «непаслухмянага» суворaўца ёсць зачаткі самага галоўнага — пакуль яшчэ няпоўнасцю ўсвядомленая гордасць за свой мундзір. Пройдзе час — і пад добратворным уплывам умелых выхавацелей «Васіль Іванавіч» стане такім, якімі мы бачым сёння суворaўцаў старэйшых класаў.

... Днямі, праходзячы па вуліцы, мы сустрэліся з пажылым суседам суворaўцаў.

— Чуеце? — сказаў ён. — Страявы крок развучваюць. Я кожны вечар слухаю. І раніцаю, як на працу збіраюся... І ведаеце, вялікі зрух заўважаю. Калі так па ўсіх прадметах, то зусім добра!

На твары яго можна было прачытаць гонар і бацькоўскую радасць.

Марк СМАГАРОВІЧ

## *Мой таварыш*

У мяне таварыш новы.
Каб вы ведалі які!
У яе, як крыллі, бровы,
Вочы, нібы аганькі.
Я цяпер разводжу пчолы,
А таварыш мой — сады.
Мы адну канчалі школу,
Толькі ў розныя гады.
Я працую ўжо два леты,
А яна — чацверты год.

Сталі сніцца мне ранеты,
Сніцца ёй духмяны мёд.
Мы пакуль агледзім пчолы
І калгасныя сады, —
Добра змеркнецца наўкола,
Не відаць ісці куды.
І тады пра лёс свой марыш
З ёю доўга ў вольны час...
Вось які ў мяне таварыш!
Вось якая дружба ў нас!



У час адпачынку. На баяне іграе Аляксей Каралёў.



Комсамольцы Мінскага сувораўскага вучылішча Валянцін Сярэдзін (злева)
Уладзімір Пляханаў праводзяць доследы ў лабараторыі.

Фота А. Дзітлава.



Стаханаўка Мінскага трактарнага завода комсамолка Насця Буянкова.
Фота А. Дзітлава.

А. АСІПЕНКА

# У нас у інтэрнаце вяселле...

Нарыс

Люба маўчала. Ды і ці можна расказаць аб тым, што робіцца ў дзявочым сэрцы, якія думкі не даюць спакою. А думкі гэтыя, як птушкі!.. Кружацца... Вось маленства ў дні вайны, потым школа ФЗН... Але больш за ўсё тое, што адбылося зараз. Уласна, усё іншае і ўсплывае ў памяці ў сувязі з гэтай нядаўняй падзеяй. Успамінаецца, як пасля адной вечарынкі ў іх адбылася размова.

Неба хмурылася. Вільготны вецер сек у твар. Але яны нічога не заўважалі, нічога не чулі. Яны былі адны. Ім так многа важнага трэба сказаць, а пачаць неяк цяжка.

Вецер разагнаў хмары, і веснавое яркае сонейка ласкава глянула на дрэвы, на зямлю, як быццам гаворачы: «А вось і я. Вы, мабыць, мяне зачакаліся».

Іван і Люба спыніліся.

— Люба, гэта нам свеціць сонца, — сказаў Іван і збянтэжыўся: прызнанне атрымлівалася неяк пакніжнаму.

Многа яшчэ было сустрэч і развітанняў, пакуль вось сёння не было сказана запаветнае слова.

Таму і маўчыць Люба Грыбкова, застаўшыся адна са сваімі думкамі. Можна, вядома, расказаць аб іх сяброўкам. Але як? Здаецца, прытулілася-б да пляча Раісы ці Веры, каб ніхто не бачыў вачэй, і ціхенька гэтак сказала: «А мы з Іванам заўтра ў ЗАГС пойдзем».

...Назаўтра дзяўчаты накінуліся на маладых гуртам. Дасталося не столькі Любе, колькі маладому, Івану Дулькевічу.

— Як вам не сорамна, да апошняй хвіліны не гаварылі! — дакаралі яны.

Іван вінавата ўсміхаўся.

— Я-ж казаў учора...

— Казаў, а мы думалі, жартуеш.

— Не жартую.

— Нічога, дзяўчаты, не гаруйце! Хоць і мала часу, а ўсё зробім, як мае быць. Нам-жа не ўпершыню: трэцяе вяселле ў інтэрнаце гуляем. І пакуль што ўсё добра было, — супакоіла дзяўчат Раіса Голуб, хоць і маладая па гадах, але, бадай, самая разважлівая і аўтарытэтная дзяўчына.

Іван запярэчыў:

— А мы вырашылі ў мяне дома вяселле згуляць.

— Ну, не, выбачайце! У нас так не робіцца. Вяселле будзе тут, — уступілася за Раісу Жэня Голуб. — А ты, Люба, адразу і згадзілася?

— Што вы, дзяўчаты! Я таксама за тое, каб у інтэрнаце гуляць вяселле.

— А дома як? Там-жа рыхтуюцца, — не здаваўся малады.

— Дзе-ж ты бачыў, каб нявесту так, за будзь здароў, аддавалі? Што яна ў нас бяздомніца? — зноў запярэчыла Жэня.

— Тады так зробім, — перабіла Жэню Раіса. — Сёння ў нас стол будзе, а ў наступную нядзелю ў вас. Добра?

На тым і згадзіліся.

Эх, гэтыя вяселлі ў інтэрнаце, дзе гаспадаром сама моладзь! Здаецца, так і пайшоў-бы ў скокі, а цесна, — дык, узяўшыся ў бокі, стаяў-бы і тупаў: то адной, то другой нагой. Пажылому чалавеку можа здацца, што малады смех пусты. Той-жа, хто памятае свае дваццаць год, разумее: чубатага хлапца, або шчабятуху-дзяўчыну хлебам не кармі, а дай ім толькі пасмяяцца.

Не паспелі Люба з Іванам увайсці ў пакой, як пачаліся жарты. Смех выклікала і тое, як Іван разгубіўся ў ЗАГС'е і на віншаванне загадчыка па-вайсковаму выцягнуўся і сказаў «ёсць», і тое, як ён аднойчы гадзіны са дзве чакаў Любу, адбіваючы «чачотку» на марозе, а яна не магла прыйсці, бо была занята на фабрыцы. Не паспяваў закончыць адзін, як на змену яму прыходзіў другі з расказам аб нечым яшчэ больш цікавым і смешным.

А на кухні ўвіхалася Ліда Голуб. Яно, калі праўду сказаць, за дзень прысмакаў асаблівых не нагатуеш, але трэба-ж управіцца. А то скажуць: вядома, у інтэрнаце. А калі разабрацца, у чым ён горшы за любую кватэру, гэты інтэрнат? Акуратна засланыя ложкі, на стале чысты абрус, на вокнах туга накрухмаленыя ўласнай мярэжы фіранкі. На сценах вышыўкі, — дзяўчаты добрыя вышывальшчыцы, — партрэты саміх гаспадынь. Люстра, радыё, патэфон, шафа. У шафе — паліто, касцюмы, сукенкі. Усюды чыстата. У пакой раз-по-разу прыбягае Ліда, каб узяць талерку або вазу. І хто яе вучыў сервіроўцы!

А тым часам прыходзяць яшчэ госці: Лена Катоўская з мужам Сяргеем. Лена — даўняя жыхарка гэтага пакоя. Амаль год назад яна вось так, як Люба, пакінула інтэрнат, вышаўшы замуж за Сяргея Войціка, шафёра легкавых машын.

— Добры дзень, радня! — жартуе Сяргей. — О, дык у вас тут, як у рэстаране!

Дзяўчаты наперабой вітаюцца з гэтым вясёлым, зусім сваім, чалавекам.

І зноў жарты, смех. Дзяўчаты мітусяцца, аб нечым шэпчуцца. Клопатаў шмат, а вопыту мала.

— Толькі, дзяўчаты, без «горка», — просіць Люба сяброўак перад тым, як сесці за стол.

— Табе нішто, прайшлася па свежым паветры... А мы тут спяшаліся, дык нам не толькі што горка, а нават млосна, — адказвае жартам Жэня.

— Волькі няма, — хвалюецца Ліда, — а то і за стол садзіцца можна.

— Як гэта няма? — гаворыць Волька.

У мітусні ніхто не заўважыў, як зайшла яна.

— Віншую цябе, Любачка, шчыра, ад усяго сэрца!

Дзяўчаты абдымаюцца, цалуюцца.

Вяселле Волькі Барадульскай таксама спраўлялі ў гэтым пакоі фабрычнага інтэрната.

— Цяпер уся сям'я ў зборы, — абвяшчае Сяргей. — Можна і за стол садзіцца.

А праз хвіліну:

— Прашу наліць бакалы!

Вясельная бяседа, дзе-б яна ні адбывалася, гаманлівая. У пакоі стаіць рознагалосы шум. Аб чым толькі ні гавораць госці!..

— Вам трэба мацней дзіцячы абутак шыць, — гаворыць Сяргей, і ў яго вачах бліскаюць іскрысмяшынкі.

— Навошта табе ён? — пытаецца Рая.

— Навошта, брыгадзір?! А як народзіцца ў мяне сын, ды будзе ён *такім*, як бацька, футбалістам, дык вашы тапкі яму на адзін штрафны ўдар.

— Будзе сын, дык мы яму ўсёй брыгадай такія бутцы пашыем, што ніколі не разаб'е, — адказала Рая.

А на другім канцы стала наспела другая тэма. Узнікла яна неяк нечакана.

— Я нізавошта не змагла-б зварваць каркасы на вышыні, — прызнаецца Вера. — Страшна, раптам звалішся і разаб'ешся...

— Чаму страшна? Прывычка і абавязак! — адказвае Іван Дулькевіч.

— Гэта галоўнае. Калі трэба — усё зробіш, — пацвярджае Жэня. — Я вось пра сябе скажу. Цяпер я ноччу ў лес ні за што не пайду. А ў сорак чацвертым годзе чатырнаццацігадовай дзяўчынкай я кіламетраў за пятнаццаць, а то і за ўсіх дваццаць хадзіла ноччу ў разведку. Іду, а вакол ні душы! І ніколечкі мне не страшна. А зморанасць такая, што, здаецца, прысяду і не ўстану больш. Іду і не спыняюся: ведаю, людзі чакаюць. Так што, калі трэба, ды яшчэ і не табе аднаму, — усё зробіш, усё зможаш.

— А калі-б не ведаў, што краіне, людзям абутак патрэбны, хіба-ж так цяпер стараўся-б, — гаворыць Ліда. — Вось тут усе стаханаўкі, і няхай хто скажа, што нам лёгка! Цяжка часам прыходзіцца.

— Але памятаеш, — перапыняе Ліду Раіса, — як у першыя гады было?

— Ну, вось, дзяўчаты ўдарыліся ва ўспаміны, — гаворыць Іван Дулькевіч.

— Не цікава, не слухай... — спыняе мужа Люба.

— Табе, Іван, можа, невядома, а ў нас такая дружба была: кавалак хлеба на ўсіх дзялілі. Адной часам не пад сілу было добрую рэч справіць, дык усім пакоем куплялі. Сёння — адной, заўтра — другой, трэцяй. Хоць і сіроты, а глядзі: і апрануты, і сёе-тое з рэчаў ёсць, — гаворыць Вера.

Жэня і Рая тым часам непрыкметна выходзяць з-за стала. Праз хвіліну яны ўносяць розныя рэчы — падарункі маладой. Гаворыць Рая:

— Мы, Любачка, куплялі табе не сланоў на камод для шчасця — яно ў вас і так будзе, — а розныя рэчы, што ў гаспадарцы спатрэбяцца.

Рая і Люба моцна цалуюцца тры разы, як сёстры. І ў кожнай бліску на вачах па здрадлівай слязінцы: нялёгка расставацца пасля сямі год сумеснага, душа ў душу, жыцця.

— Ды не назаўсёды вы разлучаецеся, — супакойвае дзяўчат Іван. — Калі дазволіце, будзем у госці прыходзіць. Падабаецца мне ў вас. Талковыя вы дзяўчаты. Сапраўды, як родныя.

— Дзявочая дружба да мужавага парога, — заўважае нехта з гасцей. — Выйшла дзяўчына замуж — і забыла пра сяброўак.

— А ў нас не так. Вось Воля Барадульская, або Лена... Яны нас не забываюць, — запярэчылі дзяўчаты. — Ды што спрачацца, прыходзьце ў госці, самі пераканаецеся.

Непрыкметна падкралася восень, пазалаціла лісце на дрэвах, напаіла паветра духмяным пахам спелай садавіны і гародніны. Сёння выходны дзень, і мы ідзем у інтэрнат, каб увачавідкі пераканацца, ці не парушылася дзявочая дружба.

Сёння дзяўчаты прачнуліся крыху пазней, чысцяць, прыбіраюць, перастаўляюць рэчы. На месцы Любы Грыбковай новая дзяўчына — Таіса Аўчыннікава.

— Ну як, прыжылася?

— Прывыкла, — адказваюць дзяўчаты, — хоць і не прайшло без сутычак.

Таіса Аўчыннікава перайшла сюды з трэцяга пакоя, які набыў сабе не вельмі добрую славу. Неяк так пазялося — не ўтвараецца ў пакоі калектыў, кожны там сам па сабе. Агульнымі бываюць толькі сваркі. Сварацца дзяўчаты часта, і аб гэтым хутка становіцца вядома ўсяму інтэрнату.

— Мы простыя. Нічога ад людзей не хаваем. Вось таму аб нас і гавораць, — спрабуюць апраўдацца дзяўчаты з трэцяга пакоя.

— А бруд на падлозе таксама для агульнага паказу? — звычайна супыняюць іх суседзі.

Вось з гэтага трэцяга пакоя і перайшла ў першы Таіса Аўчыннікава. Дзяўчаты сустрэлі Таісу прыветліва. Але неўзабаве адбылася спрэчка.

Таіса няўмела рассцілала не зусім адпрасаваную прасціну. Жэня глядзела на суседку і ўсім сваім выглядам асуджала яе няўмельства. А калі Таіса абы як, нейкім баксёрскім рухам, кінула ў вугал ложка падушку, дзяўчаты пераглянуліся. Аднак ніхто не адважыўся зрабіць заўвагу Таісе. Увайшла Ліда. Пагардліва паглядзела на засланы ложак і нечакана для ўсіх пачала перасцілаць яго. Таіса разгубілася: яна ніколі не чакала такога рашучага ўмяшання.

— Вось так засцілаць будзеш заўсёды. А чамадан на шафу пакладзі, ды чым-небудзь белым закрый.

Не звяртаючы ўвагі на дзяўчат, Ліда выйшла, а ўслед за ёю — Рая.

— Навошта ты так адразу?

— Лячыць, дык цяпер. Пасля позна будзе.

Таіса спачатку пакрыўдзілася, а потым зразумела: дзяўчаты ёй не жадаюць благога. Прыглядалася, старалася патрапіць, як кажуць, у нагу. І больш за ўсё ёй падабалася тое, што дзяўчаты ні з чым не лічацца, усё ў іх агульнае, не так, як у другіх: тваё — маё, усё ў іх — наша.

— Цяпер я сапраўды нібы ў роднай сям'і жыву, — гаворыць Таіса.

Размову нашу спыняе прыход Лены і Сяргея Войцікаў. Сёння яны не адны. Спраўдзіліся словы Сяргея: у маладых бацькоў нарадзіўся сын Саша. І хто яго ведае, кім ён будзе: футбалістам ці інжынерам, рабочым ці пісьменнікам — якая розніца, усе прафесіі пачэсныя, усе добрыя! А пакуль што Сашка спіць, і яго тварык свеціцца ўсмешкай.

— Дай патрымаю... — просіць Вера Лапцёнак.

Ды і астатнім дзяўчатам хочацца паглядзець на сына іх сяброўкі. Стоўпіліся вакол малога і нават бацьку адціснулі ў кут.

— А Люба прыдзе? — пытаецца Лена.

— Люба прасіла прабачыць, сёння яны паехалі ў госці да іванавай цёткі. Абяцалі ў наступную нядзелю прыйсці, — адказваюць дзяўчаты.

Завязваецца шчырая гутарка. У канцы яе Сяргей гаворыць:

— Вось такая яна, дружба! Добрая дружба, таварышы, сапраўдная дружба!

**г. Мінск,**
**фабрыка імя Тэльмана.**

**М. МАКАЕЎ**

# БУДУЧЫЯ ТРАКТАРЫСТЫ

Фота М. Мінковіча.

Аднойчы жыхары Маркаўшчыны з цікавасцю назіралі за тым, як па вуліцы строем, у новенькіх сініх касцюмах, ішлі загарэлыя юнакі.

— Будаўнікі, мусіць?

— Не.

— Рамеснікі?

— У тых іншая форма...

Юнакі стараліся ісці зладжаным крокам. Прайшоўшы каля шматпавярховага будынка ТЭЦ, атрад павярнуў направа. У глыбіні двара — невялікі аднапавярховы дом. Належыць ён новай школе ФЗН, якая рыхтуе трактарыстаў для МТС.

Вераснёўскім ранкам мы наведалі школу. Быў час заняткаў. Звяртаемся да дырэктара Аркадзя Іванавіча Ігнацьева з просьбай расказаць нам аб новай навучальнай установе.



Уладзімір Глядчанка расказвае сваім таварышам, як ён працаваў у час практыкі на трактары ў калгасе імя Сталіна.



У час адпачынку ў чырвоным кутку школы.

— Што расказваць? Два месяцы, як працуем...

Дырэктар — чалавек негаваркі. Але слова за словам, і ў нас завязалася гутарка.

У школе сто юнакоў, пераважна вясковых. Заняткі разлічаны на шэсць месяцаў. За гэты час майстры і выхавацелі павінны падрыхтаваць кожнага вучня на кваліфікаванага трактарыста. Будучыя механізатары азнаёмяцца ў школе з асновамі земляробства, са Статутам сельскагаспадарчай арцелі.

— Аркадзь Іванавіч, сёння другая група паедзе на практыку ці не? — перапыняе нашу гутарку майстар Лугаўцоў.

— Абавязкова. І вы з ёй, — адказаў дырэктар. — На зябліве практыку праходзім... За два месяцы нашы выхаванцы нядрэнна авалодалі тэхнікай кіравання трактарам. Вядуць машыну не горш за бывалых трактарыстаў...

Дырэктар усміхаецца.

— Я сам любаваўся, як вёў машыну Лёня Кабанаў. Зрабіў першы заезд і задаволена гаворыць: «Вось я і трактарыст!» А Лёня гэты, калі прышоў да нас, такі ціхі быў. Цяпер-жа яго не пазнаць: баявым, дапытлівым стаў. Мы яго старастай групы прызначылі.

— А дзе рыхтуюцца вучні да ўрокаў?

— Звычайна, у чытальнай зале, а да практычных заняткаў — у тэхнічным кабінеце. Умовы для вучобы ў нас ёсць.

Тым часам пачуўся званок. Ажыў школьны двор.

Мы ідзем па двару. Група юнакоў сабралася ла бібліятэкі, дзеляцца ўражаннямі аб практыцы.

— Ну як, Валодзя, многа агрэхаў нарабіў? — пытаецца шустры невысокі юнак.

— І не думаў іх рабіць, — адказвае Валодзя.

— А на паваротах? — хітра жмурыцца шустры.

— А што на паваротах? Я, брат, не ўпершыню. Два гады прычэпшчыкам працаваў.

Шустры юнак адразу мяняе тэму размовы.

— Як у калгасе спаткалі вас?

— Былі мы ў калгасе, — адказвае Валодзя. — Сустрэлі нас добра... Старшыня вітаў з пачаткам практыкі.

— Задаволены практыкай? — пытаецца дырэктар Валодзю Глядчанку.

— Вельмі хутка праляцеў час, Аркадзь Іванавіч. Пашліце яшчэ хоць на тыдзень.

— У нас-жа яшчэ тры групы на чарзе. Ты цяпер над кнігай пасядзі.

Валодзя маўчыць і нешта падлічвае па пальцах.

— Яшчэ чатыры месяцы засталося. Час вялікі, — гаворыць дырэктар, зразумеўшы, што Валодзя падлічвае, колькі дзён яму засталося да наступнай практыкі.

— Акурат да вясны скончым. А там са школы — і на трактар!



**На ўроку вытворча-тэарэтычнага навучання па трактару «СТЗ-НАЦІ». Заняткі праводзіць майстар-комсамолец Аляксандр Іваноў.**



**На занятках па вывучэнню трактара «ДТ-54». Заняткі праводзіць майстар Анатоль Саможнеў.**



**Выдатнікі вучобы комсамольцы:** (злева направа) **Віктар Ермаловіч, Валянцін Рыжыкаў, Анатоль Ільюшчанка і Нікалай Гаўрылаў рыхтуюцца да заняткаў.**

... Уладзімір Глядчанка прыехаў у школу з калгаса «Інтэрнацыянал» Сутоцкага сельсовета Лёзненскага раёна. Авалодаць трактарам, сесці за руль — было яго запаветнай марай. У заяве на імя дырэктара школы ФЗН Валодзя пісаў: «Вельмі хачу стаць трактарыстам. Прашу прыняць мяне вучыцца і, калі магчыма, пасля вучобы паслаць у свой калгас».

Такія ўсе вучні.

Вось Міша Гарбачэўскі. Ён таксама хоча паехаць у свой калгас. Міша вучыцца на «выдатна». Днямі дырэкцыя школы паслала яго бацькам у Кляноўскі сельсовет Дубровенскага раёна паведамленне аб тым, што іх сын — выдатнік вучобы. Разам з паведамленнем пасланы і фотаздымак будучага трактарыста.

Міша Гарбачэўскі, як і трынаццаць другіх выхаванцаў школы, занесены на Дошку гонару.

Загадчык навучальнай часткі Міхаіл Іванавіч Кудзімчык запрашае зайсці ў тэхнічны кабінет. Гэта невялікі, але светлы, чысты і абсталяваны патрэбнымі прыладамі пакой. У ім ёсць многа дыяграм, плакатаў па тэхніцы эксплуатацыі трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын. У шафе — розныя наглядныя дапаможнікі.

— Гэтыя дапаможнікі зрабілі самі вучні, — расказвае Міхаіл Іванавіч. — Вось макет лушчыльніка «КП-4». Яго зрабіў вучань Ігнаценка. А гэты макет сядзібы МТС змайстраваў вучань Бараноўскі. Звярніце ўвагу, тут усё зроблена так, як на сядзібах узорных МТС Савецкага Саюза. Будучыя трактарысты — гэта культурныя людзі. Яны будуць думаць не толькі аб тым, колькі ўзараць за сезон, але і аб ураджаі на палях калгасаў, і аб справах у МТС.

... Скончаны заняткі. Вучні адпачылі і ідуць хто ў тэхнічны кабінет, хто ў чытальную залу. Тут прыгожа афармлены стэнды, выстаўкі. На сталах — падшыўкі газет, часопісаў, ва ўтульным кутку — столікі для гульні ў шахматы, шашкі. У чытальні часта праводзяцца лекцыі, даклады.

Час пасля вячэры звычайна адводзіцца для розных культурных і спартыўных мерапрыемстваў, для работы гурткоў мастацкай самадзейнасці, тэхнічных гурткоў і аматараў прыкладнога мастацтва.

Мы зайшлі ў адзін з пакояў. Тут займаецца фотагурток. Шаснаццаць юнакоў уважліва слухаюць тлумачэнне кіраўніка гуртка Іванова. Гуртkоўцы нядрэнна ўжо валодаюць фотаапаратам. Асабліва славяцца ў школе здымкі Валодзі Конышава.

— А як ты вучышся?

— Як і ўсе, — адказвае Валодзя.

— Яго прозвішча занесена на Дошку гонару, — падказваюць вучні.

Многа ўвагі аддаецца фізічнаму выхаванню будучых трактарыстаў. Вучні робяць зарадку старанна. За два месяцы вучобы яны сталі дужымі і спрытнымі.

Мы выходзім на вуліцу.

— Пройдзе яшчэ чатыры месяцы, — гаворыць дырэктар, — і паедуць нашы выхаванцы ва ўсе канцы вобласці. Гэта будзе ўжо не проста новы атрад механізатараў, а новая сіла, кадравыя рабочыя МТС з добрай тэарэтычнай падрыхтоўкай. Вялікі сэнс закладзены ў гэтым. Неўзабаве, калі дзесяткі такіх школ пачнуць выпускаць высокакваліфікаваных трактарыстаў, карэнным чынам зменіцца ўся работа МТС.

**г. Віцебск.**



**На занятках тэхнічнага гуртка. Аляксандр Сталнаў** (справа) **робіць мадэль трактара.**



**У чытальнай зале школы.**



**У школе працуе фотагурток, якім кіруе майстар Аляксандр Іваноў. Гурткоўцы зрабілі многа цікавых здымкаў.**

Сяргей АНТОНАЎ




# Дэльта ікс

Апавяданне

Мал. А. Волкава.

Калідор у інтэрнаце быў такі доўгі, што, калі па суботах прыбіральшчыцы скачвалі зялёную дарожку, рулон атрымліваўся вышынёй з дужага дыпломніка. Па абодвух баках калідора ішлі дзверы, аздобленыя пад дуб, і на кожных з іх віднеліся таблічкі на роўнай адлегласці ад падлогі з прозвішчамі студэнтаў. Прозвішчы былі напісаны тушшу на акуратных квадраціках слановай паперы шрыфтам нумар дзесяць з нахілам літар у семдзесят пяць градусаў, як патрабуецца па стандарту.

Гэты строгі, маўклівы калідор з меднымі ручкамі ў дзвярах, нечышчанымі, як на караблі, выклікаў у новенькіх столькі павагі і нясмеласці, што яны праходзілі па зялёнай дарожцы на дыбачках.

Аднак у тых, хто падыходзіў да дзвярэй 316-га пакоя, павага да інтэрната некалькі змяншалася. На таблічцы было напісана:

Як многа тут хлапцоў прыемных,
Як многа ласкавых імён,
Тут Светлавідаў і Бясчасных,
Крылоў і Нерастаў Сямён.

Але і гэты надпіс быў зроблены шрыфтам нумар дзесяць і з нахілам літар у семдзесят пяць градусаў, як гэта патрабуецца па стандарту.

Цэлы дзень калідор быў пустынны і ціхі. Толькі з васьмі да паловы дзевятай раніцы ён напаўняўся тупатам тых, што беглі займаць чаргу ва ўмывальнях, ды з трох да чацвертай гадзіны дня ішлі пасля заняткаў студэнты з падручнікамі, сшыткамі, са скруткамі калькі ці міліметроўкі, а то і з томікам рамана.

Пачынаючы з дванаццатай гадзіны ночы за шклянымі фрамугамі дзвярэй адзін за другім гаслі агні. Гэта азначала, што задачкі з Мяшчэрскага рашоны, чарговы раздзел супраціўлення матэрыялаў прачытаны, штаны для захавання рубцоў пакладзены пад матрац, а будучыя інжынеры бачаць у сне ці сястрычку, якая корміць курэй каля хаты, абсаджанай бярозкамі, ці бацьку, што крочыць па шырокім, як вуліца, заводскім дварэ. Толькі ў двух-трох пакоях у студэнтаў апошняга курса святло ўпарта гарыць да трох, а то і да чатырох гадзін ночы.

Аднойчы вечарам у гарачую пару падрыхтоўкі да веснавых экзаменаў у пакой № 316 накіроўваліся член рэдкалегіі насценнай газеты «Спідометр» Глеб Васняцоў і член прафкома аўтамабільнага факультэта Вера Бяссонава. Рэдкалегія сумесна з прафкомам вырашыла абследаваць, як выкарыстоўваюць студэнты пасляву чэбны час.

Вера завяла сшытак з лістамі, разлінаванымі на вузкія калонкі. У першай калонцы быў надпіс: «Падрыхтоўка да заняткаў». Далей ішлі графы: «Культурны адпачынак», «Грамадская работа», «Быт» (лазня, ежа і іншае), «Сон», «Хворыя», «Адсутнічаюць у інтэрнаце» і, нарэшце, «Бессэнсоўная трата часу».

Глеб з радасцю згадзіўся прыняць удзел у гэтай рабоце. Калі праверачная камісія разбівалася на групы па два чалавекі, Глебу давялося затраціць нямала розуму і хітрасці, каб непрыкметна для ўсіх і як быццам выпадкова апынуцца ў пары з Верай Бяссонавай. А трапіць у пару з Верай Глебу было неабходна таму, што ён збіраўся запрасіць яе ў кіно. Аднак, перш чым зрабіць такое запрашэнне, ён вырашыў нарэшце добра высветліць адносіны паміж Верай і старастам 316-га пакоя Сямёнам Нераставым. У час праверкі для гэтае мэты здараўся цудоўны выпадак. Калі Вера ў 316-ым пакоі будзе зусім аб'ектыўнай, то паміж ёй і Нераставым, натуральна, нічога няма. Калі-ж яна паставіцца з прыхільнасцю і ўсіх, хто жыве там, паспрабуе занесці ў графу «Падрыхтоўка да заняткаў», то «Юнацтва свету» Глебу давядзецца глядзець аднаму.

Вера вучылася на першым курсе ў той самай групе, дзе і Нерастаў. Гэта была смуглявая чорнавалосая дзяўчына са строгімі вачыма. Яна хадзіла па школьнай прывычцы ў глухім плацці, на якім бялеў карункавы каўнерык. Поўныя губы яе былі заўсёды крышку надзьмутыя, быццам яна злавалася, што вельмі прыгожая і прыгажосць гэтая прыносіць ёй нямала клопатаў.

Яшчэ ў першым семестры, калі Вера не магла зразумець самых элементарных рэчаў, якія датычаць будовы аўтамабіля, і на сходзе групы вызначылі Сямёна дапамагаць ёй пасля заняткаў, Глеб прыкмеціў нейкую незразумелую дзіўнасць у адносінах між імі. Аднойчы, праходзячы каля аўтамабільнай аудыторыі, ён пачуў павольны бас Сямёна:

— А гэтыя цягі куды ідуць?

Глеб зазірнуў у дзверы. У пустой аудыторыі гарэлі ўсе дваццаць чатыры лямпачкі. На сценах віселі вялікія схемы новых мадэлей аўтамашын. Вера стаяла, панурыўшы галаву, каля цэментаванага стэнда, на якім знаходзілася шасі аўтамабіля. Сямён сядзеў за першым сталом, утапіўшы ў валасах свае пальцы, у позе найпаўнейшай безнадзейнасці. Акрамя іх у аудыторыі нікога не было.

Глеб увайшоў, сеў воддаль і разгублена разгарнуў кнігу.

— Я лепш па чарцяжах раскажу, Сеня, — казала Вера.

— Навошта па чарцяжах?.. — пярэчыў Сямён. — Па кніжках ды па чарцяжах ты ўсё напамяць ведаеш. А ты вось на жывым аўтамабілі пакажы.

Вера дакраналася да цягі, да кардана, да рамы так нясмела, быццам баялася зрабіць жалезу балюча.

— Вось цяпер ты тыкаеш указкай у тармазны барабан, — гаварыў Сямён стомленым голасам,— а вось там тармазныя калодкі. Іх трэба рэгуляваць, каб яны націскалі на колы роўнамерна і аднолькава. Вось. А то можа занесці машыну... — І Сямён расказаў доўгую гісторыю аб тым, як у мінулым годзе, калі ён вазіў да элеватара збожжа, на яго машыну ледзь не наскочыла паўтаратонка, таму што ў яе левае кола круцілася, а правае ішло юзам.

— Як гэта юзам? — пытала Вера.

Сямён сумна глядзеў на яе і ўздыхаў.

— Прачытала Чудакова і ўсё, — казаў ён, — а як практыкі кранешся, — нічога не разумееш. І навошта цябе мама запісала на аўтамабільны факультэт? Яна астраном і цябе няхай-бы пусціла па астранаміі.

— Я сама вырашыла, куды мне паступаць...

— Гэта-ж вось старцёр адкажа, ты і не зможаш машыну завесці.

— А ты да гэтай пары не разумееш, што такое бясконца малая велічыня. Ну, што такое дэльта ікс? Ну?..

— Што ну? Пакажы мне гэтую дэльту ікс, каб я яе памацаць мог.

— Так абазначаецца бясконца малая велічыня, — едка заўважала Вера, — яе нельга памацаць. Яе трэба разумець.

— Выдумалі вашы астраномы і матэматыкі ўсе гэтыя бясконцасці, інтэгралы, дыферэнцыялы. Вось у машыне дыферэнцыял — дэталь ясная і зразумелая. Дыфер — і ўсё... Ладна, паказвай на чарцяжах.

Вера не паварушылася і маўчала. Сямён коўзаўся на месцы і нарэшце некалькі вінаватым тонам гаварыў:

— Што-ж, не будзеш расказваць, дык я пайду.

Вера маўчала.

— Ну і ладна! — заключаў Сямён і ішоў у інтэрнат.

Вера садзілася на яго месца, адкрывала кнігу, але не чытала яе, а, не адрываючыся, глядзела на схемы машын, якія будуць выпускаць у гэтым годзе Маскоўскі, Яраслаўскі, Горкаўскі, Мінскі аўтамабільныя заводы... Як многа існуе ўсялякіх машын, і ўсе яны розныя!

Глеб лічыў нязручным прапанаваць ёй сваю дапамогу. Ён займаўся ў другой, «паралельнай» групе, і яны бачыліся з Верай толькі на агульных лекцыях і, працуючы агітатарамі перад выбарамі, зрэдку сустракаліся на агітпункце.

Хвілін праз дзесяць Сямён вяртаўся.

— Зноў снегу навалiла, — казаў ён, — усе дарогі ў снягу. Па такой дарозе толькі на трэцяй перадачы паедзеш, а то і на другой.

— Снег усё ідзе? — прымірэнча пытала Вера.

— Ідзе. Чытаеш?

— Чытаю.

— Пра карбюратар?

— Пра карбюратар.

— Усё зразумела?

— Па кніжцы ўсё зразумела.

— А на практыцы?

Вера маўчала.

— Ну, пачакай... Ты сядзі, а я сам табе пакажу.

Сямён браў з паліцы мадэль карбюратара, і Глеб зноў чуў яго густы бас:

— Жыклёр трэба рэгуляваць вось так. Вось. Чым лепш яго адрэгуляваць, тым менш спаліш гаручага... — І Сямён апавядаў доўгую гісторыю аб тым, як зімой усе эмтээсаўскія шаферы прасілі яго рэгуляваць жыклёры, таму што, па яго словах, у гэтай справе ён быў вялікі спецыяліст.

— Пачакай, — перапыняла яго Вера, — дай цяпер я паспрабую паказаць састаўныя часткі шасі.

— Ты-ж хацела па чарцяжах? Ты-ж нічога не зразумееш на практыцы.

— Не, зразумею. Вось гэтыя вінцікі...

— Балты, а не вінцікі. Гэта не швейная машына, а аўтамабіль. Давай, расказвай па кніжцы пра карбюратар.

— У кніжцы тыя самыя дэльты, у якіх ты нічога не разумееш...

І праз некалькі хвілін яны зноў сварыліся.

К вялікаму здзіўленню Сямёна, на экзаменах па апісальнаму курсу аўтамабіля Вера атрымала пяцёрку. Аднак і пасля гэтага яны толькі затым і збіраліся, каб паспрачацца і пасварыцца.

Глеб разумеў, што сваркі яшчэ не абазначаюць адсутнасці дружбы і нават кахання. Але поўную яснасць маглі ўнесці толькі паводзіны Веры ў 316-ым пакоі. Таму зусім зразумела, што Глеб падыходзіў да гэтага пакоя з нейкім хваляваннем. Ён нават надзеў свой новы касцюм, пашыты з нейкага незвычайнага матэрыялу, таму што збіраўся ехаць з Верай у кіно адразу пасля абследавання.

Вера пастукала ў дзверы, і яны ўвайшлі.

316-ы пакой нічым не адрозніваўся ад іншых пакояў студэнцкага інтэрната. Усцяж бакавых сцен, пафарбаваных масляная фарбай, стаялі аднолькавыя нікеляваныя ложкі, пакрытыя аднолькавымі паласатымі коўдрамі. Да ножкі кожнага ложка дротам былі прымацаваны авальныя бляшаныя этыкеткі з назвай інстытута і чатырохзначным інвентарным нумарам. Паміж ложкамі стаялі тумбачкі, пасярод пакоя — стол, а ў дзвярах шафа. І толькі на тумбачцы Светлавідава знаходзілася рэч, якой не было ў іншых пакоях: даволі ўдала намаляваны на кардоне асёл, які трымае ў зубах папяросу. Асёл быў намаляваны ва фраку, з гальштукам матыльком і, узняўшыся на дыбы, абапіраўся на подпіс: «Тут курыць забаронена, а я куру!»

Не гледзячы на тое, што ўсе ложкі і коўдры былі аднолькавыя, маленькі пакойчык з паркалёвай занавескай на акне, са стопкамі кніг на тумбачках, з ружовым абажурам, таксама, дарэчы сказаць, маючым жасцяную бляшку за нумарам 2414, адрозніваўся той асаблівай студэнцкай утульнасцю, аб якой праз шмат гадоў пажылыя, сівыя інжынеры, дырэктары заводаў і загадчыкі майстэрнямі, лаўрэаты Сталінскіх прэмій і Героі Сацыялістычнай Працы будуць успамінаць з цёплай усмешкай заўсёды, калі ім успомніцца іх вясёлая, шчаслівая і цяжкая маладосць.

316-ы пакой быў першым, куды зайшлі Глеб і Вера, таму жыхары яго не паспелі належным чынам падрыхтавацца да прыёму камісіі. За сталом акуратны Крылоў упоўголаса чытаў тоўсты падручнік і зрэдку сёрбаў чай. У яго разгулялася мігрэнь, і галава яго была павязана ручніком. Насупраць Крылова сядзеў Светлавідаў і рашаў задачу. Рашэнне не супадала з адказам, і ў час працяглага роздуму наконт таго, каму патрэбны такія задачкі, якія не рашаюцца, ён тут-жа на чарнавіках маляваў карыкатуру на Крылова. Бясчасны ляжаў на ложку, паклаўшы на жывот адкрытую кнігу. Лёг ён як быццам спецыяльна для таго, каб апраўдаць неабходнасць графы «Бессэнсоўная трата часу».

Старасты пакоя Сямёна Нерастава не было.

— А-а, Верачка! — працягнуў востры на язык Светлавідаў, убачыўшы прышоўшых. — Зноў Сямёну бясконцавасць тлумачыць прышла?

Вера сухавата прывіталася, паказваючы, што жартам не час і што нікому патураць са свайго боку не збіраецца.

— Ого! — прадаўжаў між тым Светлавідаў, акінуўшы позіркам святочны касцюм Глеба. — Пінжак журавінавага колеру з іскрай. Пераліцаваны з чычыкаўскага фрака.

Вера, не ўтрымаўшыся, пырснула, адразу страціўшы ўвесь свой афіцыйны выгляд.

— Адзін з самых кепскіх пакояў, — пачырванеўшы, сказаў Глеб, — амаль усе едуць на тройках...

Шчыра кажучы, Глеб крыху згусціў фарбы — Крылоў быў выдатнікам.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## На трамвайным прыпынку

Ён праводзіў яе.
— Ты пабудзеш са мной
Пакуль прыдзе трамвай і не болей...—
Заявіла сяброўка, а сэрца ў самой
Так і сціснула ныючым болем.

«Вельмі добра з каханым...»
Ды шпаркі трамвай,
Як знарок, падыйшоў да прыпынку.
І сказала дзяўчына замест «Бывай!»:
— Можа ты 'шчэ пабудзеш хвілінку?!

Ёй шкада адагнаць гэты міг дарагі,
Непаўторную радасць сустрэчы,
А таму непрыкметна праходзіць другі,
І зусім незаўважана — трэці.

А затым і чацверты, і пяты трамвай
Празвінеў і пайшоў ускрай саду...
А дзяўчына ўсё кажа замест «Бывай!»:
— Можа лепш на наступны я сяду?..

## Пісьмо

Ну, малюсенькае — проста дзіўна:
Што чытаць там — пяць скупых
радкоў?..
А таварыш мой ужо з гадзіну
Разглядае іх з усіх бакоў.

Ад каго пісьмо — я не пытаю.
Можа быць, цікавасці няма?!.
Не! Калі ён столькі раз чытае,
То — я знаю аўтара пісьма!

— Гэта чыя тумбачка?

— А што? — запытаў Бясчасных і сеў.

— Няўжо ручнік на месца нельга павесіць? — запыталася Вера.

— Вунь у яго тут цэлы Эверэст на тумбачцы, — дадаў Глеб.

Вера паглядзела на Крылова і паставіла палачку ў графе «Падрыхтоўка да заняткаў». На погляд Глеба, Крылова можна было запісаць у графу «Быт», таму што ён піў чай, і ў графу «Хворыя» з-за мігрэні, але ён вырашыў не ўмешвацца, а наглядаць, як Вера павядзе сябе далей. Між тым Вера зірнула на Бясчасных, на яго пабураную пасцель, і, пакрывіўшы вока, Глеб убачыў, што яна паставіла палачку ў графе «Сон». «Усё ясна, — падумаў Глеб са смуткам, — які-ж тут сон...»

«Праектуючы вектары АО і ОВ, — аддаваўся ў яго вушах голас Крылова, — а таксама вектар паскарэння на вось іксаў...» — і Глебу раптам здалося, што ён дарэмна надзеў свой новы касцюм. Куды лепш было-б сядзець вось так, як Крылоў, дома і паўтараць механіку.

Вера зноў паглядзела на ложак Бясчасных і запыталася:

— Што вы чыталі?

— А што? — перапытаў асцярожны Бясчасных.

«Яшчэ нехапала, каб яна запісала яго ў «Падрыхтоўку да заняткаў», — са смуткам падумаў Глеб і злосна сказаў:

— Мы правяраем распарадак.

Бясчасных схаваў кніжку пад падушку і сеў за стол займацца, Вера ўздыхнула, закрэсліла палачку ў графе «Сон» і зрабіла адзнаку ў графе «Бессэнсоўная трата часу». «Не, яшчэ нічога невядома», — павесялеўшы, падумаў Глеб і запытаў:

— Дзе стараста?

— Стараста пайшоў мышэй лавіць, — адказаў Светлавідаў.

— А? — прамовіла ашаломленая Вера і разгублена азірнулася на Глеба.

— Пагляздіце, як яны займаюцца, — сказаў ёй Глеб, паказваючы на чарнавы сшытак Светлавідава.

Сярод лічбаў і формул Вера ўбачыла карыкатуру на Крылова, намаляванага ва фраку, з гальштукам матыльком. Яна паківала галавой і непахісна перапраўіла лічбу «адзін» у графе «Бессэнсоўная трата часу» на двойку.

У гэты час дзверы расчыніліся, і на парозе паказаўся запыханы Сямён.

— Гэта што? Камісія? — басам кінуў ён. Відаць, чуткі аб праверцы ўжо разнесліся па інтэрнаце. — У кладовай, хлопцы, «чапэ». Мышанё завялося. Заўхоз папрасіў наладзіць мышалоўку, вось я і затрымаўся... — і Сямён пачаў апавядаць доўгую гісторыю аб мышалоўках уласнай канструкцыі.

— Значыць, вы таксама не выконваеце распарадку, таварыш Нерастаў? — перапыніла яго Вера. — Вы — стараста, павінны прыклад падаваць...

— Вы бачыце, усе займаюцца! Вось Светлавідаў рыхтуецца!

— Якая-ж гэта падрыхтоўка?! — не сцярпеў Глеб і разгарнуў сшытак Светлавідава, каб усе ўбачылі яго мастацтва. Побач з карыкатурай на Крылова ўжо быў намаляваны чалавек у касцюме з шырокімі плячыма, даволі падобны на Глеба.

Вера зноў збілася з сур'ёзнага тону і ўсміхнулася.

— А Бясчасных ляжаў на ложку, — злосна заўважыў Глеб.

— Хто? Бясчасных? У яго, калі хочаце ведаць, уласны расклад. Чалавек жыве па мінутнаму графіку. Глядзіце.

Сямён адчыніў дзверцы тумбачкі Бясчасных. Да нутраной іх стараны была прымацавана таблічка з доўгім распарадкам дня, уключаючы ўсё, аж да часу на чыстку чаравік.

— Дык вось, — сказаў Глеб, — ён па свайму раскладу павінен зараз займацца. А ён ляжаў.

— Бясчасных — далёкаўсходнік, — уставіў Светлавідаў, — у яго расклад па чыцінскаму часу.

— Недасціпна, — сказала Вера, стараючыся ўтрымацца ад смеху. — Дык вось, таварыш стараста, у вашым пакоі трое прыемных хлапцоў бессэнсоўна трацяць час.

— Якія трое хлапцоў? — павольна прагаварыў Сямён.

— Светлавідаў, Бясчасных і ты. Пойдзем, Васняцоў!

— Ладна! — працягнуў Сямён, пачынаючы ўсё больш злавацца. — Я Яршову далажу. Мы на лепшы пакой спаборнічаем, а ты такія даныя ў прафком нясеш! Пасылаюць вучняў...

— Пойдзем, Васняцоў, — паўтарыла Вера, некалькі бляднеючы. — З гэтым пакоем усё.

Глеб услед за Верай вышаў у калідор. Праз тарцовае акно білі праменні заходзячага сонца. Медныя ручкі на дзвярах зіхацелі. Глебу чамусьці здалося вельмі смешным, што Крылоў сядзіць цяпер з галавой, павязанай ручніком, падобны на фокусніка Кіо, і бубніць пра вектары і восі каардынат.

— Бадай што, мы перабралі, Васняцоў! Як вы думаеце? — запыталася Вера.

Яна стаяла, асветленая аранжавым святлом сонца, неяк бокам, паптушынаму, глядзела на Глеба, і твар яе здаваўся загарэлым.

— Канешне, — згадзіўся Глеб, — і ў іншых пакоях трэба быць дабрэй.

— Давайце перанясем Светлавідава ў «Падрыхтоўку да заняткаў»: усё-ж ён рашаў задачу.

Глеб дабрадушна згадзіўся.

— А Нерастава ў «Быт». Трэба-ж каму-небудзь выводзіць мышэй у кладовай.

Глеб згадзіўся і на гэта. Заняты думкамі аб тым, як Вера аднясецца да яго прапановы наконт кіно, ён не асабліва прыслухоўваўся да таго, што яна гаварыла. У адносінах да дзяўчат ён быў чалавекам сарамлівым. Ён часта ўяўляў сабе, як яны з Верай летнімі белымі начамі будуць катацца на лодцы ці блукаць па Марсавым полі, таксама абавязкова ў пару белых начэй. Некалькі дзён таму назад фраза: «Пойдзем са мной у кіно» здавалася яму простай і звычайнай, а цяпер, ходзячы па пакоях, Глеб пачынаў баяцца, што Веры гэтыя словы могуць здацца вельмі раптоўнымі. Трэба, відавочна, спачатку пагаварыць аб толькі што выпушчаным на экран фільме, аб карысці зрэдку адхінуцца ад заняткаў, а потым ужо... Але часу на такую падрыхтоўку зусім не было. Даводзілася хадзіць з пакоя ў пакой, спрачацца са старастамі і запаўняць графы ў сшытку лічбамі і заўвагамі. У такіх справах прайшла гадзіна, прайшла другая, і, нарэшце, Глеб ні з таго ні з сяго супыніўся пасярод калідора, узяў Веру за руку і некалькі хрыпавата прамовіў:

— А ў Доме культуры харчавікоў ідзе харошая карціна.

— У кіно, па-мойму, лепш ездзіць на Неўскі, — адказала Вера, асцярожна вызваляючы руку.

— Але «Юнацтва свету» ідзе толькі ў Доме культуры харчавікоў. Нам давядзецца ісці туды, — сказаў Глеб і, спахапіўшыся, дадаў: — Вы пойдзеце са мной, Вера?

— Ой, не ведаю, Васняцоў, не ведаю, — Вера крышку збянтэжылася, — у мяне сёння столькі спраў! І матэматыка не падрыхтавана і начарталка.

— А ў мяне механіка не зроблена. Пойдземце!

— Проста не ведаю! А якая карціна?

— «Юнацтва свету».

— І білетаў, напэўна, сёння не дастаць?

— Што вы! На апошні сеанс заўсёды ёсць білеты. Пойдземце!

— І пераапранацца трэба... Цэлая гісторыя.

— Нашто пераапранацца? У вас гэта — вельмі прыгожая сукенка. Пойдземце!

Пасля таго, як быў зроблены першы крок, Глеб са здзіўленнем і гонарам адчуваў, што з кожнай хвілінай становіцца смялейшым. Вера хісталася і чамусьці была збянтэжана.

— І хлопцы нашы даведаюцца, — ціха прамовіла яна, — пачнуць заўтра смяяцца. «Сама, — скажуць, — сочыць, каб займаліся, і сама ў кіно ходзіць».

— Дык гэта-ж на апошні сеанс! На адзінаццаць трыццаць! У такі час ніхто не абавязаны займацца!

— Проста не ведаю, Васняцоў. А якая карціна?

— «Юнацтва свету», — цярпліва паўтарыў Глеб і хуценька дадаў: — А вашым хлопцам таксама не забараняецца пасля заняткаў схадзіць у кіно.

— Гэта ідэя! — узрадавалася Вера. — Давайце паклічам і Светлавідава, і Бясчасных, і Нерастава.

— Навошта яшчэ Светлавідава?

— Вы не ведаеце! Светлавідаў такі дзівак, вы памрэцё ад смеху.

— А Нерастаў не паедзе. Яму восьмае заданне.

— Мы яго ўгаворым. Не турбуйцеся. І Нерастаў і Светлавідаў паедуць.

Сапраўды, усе жыхары 316 пакоя, акрамя Крылова, згадзіліся ехаць у кіно без ніякіх хістанняў. І калі пяцёрка студэнтаў чакала трамвая, адзіным хмурым і маўклівым ва ўсёй групе быў ініцыятар паездкі Глеб.

У трамваі настрой яго яшчэ больш сапсаваўся. У Глеба з'явілася падазронасць, што адносіны паміж Верай і Нераставым куды складаней, чым яму здавалася. Глеб адчуваў гэта па няўлоўных для другіх дробязях. Вера запыталася пра час у Сямёна, хоць у Глеба быў наручны гадзіннік, а Сямёну давялося ў трамвайнай штурхатні лезці па свой кішанёвы. Каля білетнай касы патрымаць пальчатку яна папрасіла таксама Сямёна, а не Глеба.

Яны сядзелі ў цёмнай, халаднаватай зале, Глеб злева ад Веры, а Сямён справа, і пучок рознакаляровых праменняў павольна рухаўся над іх галовамі.

Шчаслівыя рашучыя твары юнакоў і дзяўчат усміхаліся Глебу з экрана. Яны спявалі, танцавалі, упэўнена гаварылі пра сваё будучае, і чым больш Глеб глядзеў на іх, тым спакайней і радасней станавілася ў яго на душы. «Як след разважаючы, нічога няма асаблівага ў тым, што яна дала патрымаць пальчатку не мне, а Сямёну, — падумаў ён. — Яны вучацца ў адной групе, прывыклі адзін да другога. І наогул, магчыма, усе гэтыя тонкасці нічога не азначаюць».

Сеанс закончыўся, і студэнты выйшлі на вуліцу. Высока над дахам пяціпавярховага дома запальваліся і гаслі вялікія літары рэкламы



Дзяржкінапраката, і калі яны запальваліся, на мокрым даху ўзнікалі іх цьмяныя адлюстраванні і рабілася бачна, што ідзе дробны дождж. Над дамамі, над прыціхшай начной вуліцай нізка вісела шэрае неба, якое прадракала празрыстыя белыя ночы. Бясчасных і Светлавідаў крышку адсталі. Глеб і Сямён ішлі наперадзе з Верай і, саромячыся адзін аднаго, не бралі яе пад руку. Гутарка не клеілася. Але раптам, калі Вера зноў запыталася ў Сямёна, каторая гадзіна, Глеб нечакана для самога сябе сказаў:

— Цяпер палавіна другой, Вера. Я клікаў вас у кіно, а не Нерастаў. А вы трэці раз у яго пытаеце, каторая гадзіна. — Глеб разумеў, што робіцца смешным, але, як часамі бывае з сарамлівымі людзьмі, менавіта ад гэтага раззлаваўся і вырашыў ісці на ўсё: — Калі вам падабаецца Нерастаў, не трэ' было ісці са мной...

Глеб змоўк, чакаючы выбуху смеху ды вясёлых жартачкаў. Але ўсё атрымалася інакш.

Вера ўздрыгнула і спынілася, панурыўшы галаву. Сямён рэзка павярнуўся і зірнуў на яе. І Глеб убачыў, як у святле неона заблішчэлі яго вялікія, шырока адкрытыя вочы.

— Твой гадзіннік адстае, брат, — сказаў Сямён і ўзяў Веру пад руку.

І па тону, якім была выказана гэтая фраза, Глеб са смуткам зразумеў, што Сямён толькі зараз упершыню здагадаўся аб тым, аб чым яму даўно-даўно варта было-б здагадацца.

Відаць, зразумелі гэта і астатнія. Светлавідаў усміхнуўся і затрымаў Глеба і Бясчасных.

Вера і Сямён ішлі па пустым, бліскучым і чорным ад дажджу тратуары, ішлі і маўчалі.

— Давайце спрачацца, — сказаў Светлавідаў, — яны не заўважаць трамвайнага прыпынку.

Спрачацца ніхто не захацеў.

Вера і Сямён прайшлі адзін трамвайны прыпынак, мінулі другі.

Хлопцы крочылі за імі воддаль.

— Цікава, аб чым яны цяпер размаўляюць? — сур'ёзна прагаварыў Бясчасных.

Хлопцы падыйшлі бліжэй.

— А я яшчэ тады ведаў, што не магу без цябе, — сказаў Сямён.

— Я цябе баялася, Сеня. Ты так хараша расказваеш пра аўтамабілі, што мне здавалася, што я, учарашняя школьніца, зусім не цікавая для цябе....

— Што такое аўтамабілі!.. Ты на ляту тэорыю ловіш, а я што... Памятаеш, калі я не адказаў пра карыалісава паскарэнне...

— Ты тады быў у скуранцы...

— Але, у скуранцы. Ты так паківала галавой, што я вырашыў зусім не глядзець на цябе. І на вечары пайшоў танцаваць з Зояй Гусевай.

— Кракавяк.

— Ага, кракавяк. А што мне Гусева! Гаворыць, гаворыць, а словы ў яе ўсе пустыя. Таксама задачкі рашае добра. Па правілах. Па правілах і я табе любы інтэграл рашу, а вось зразумець, што гэта такое, зразумець фізічную сутнасць бясконца малой, гэтай д'яблавай дэльты ікс, ці сутнасць васьмёркі, ляжачай на баку, якая паказвае бесканечнасць...

— Якое глупства, — сказаў Светлавідаў.

— Не, не глупства, — ціха адгукнуўся Бясчасных. — Як ты думаеш, Васняцоў?

Глеб не адказаў.

Хлопцы зноў прыслухаліся.

— А зусім высока, — казала Вера, — дзе канчаюцца зоркі і ўсе планеты, там нічога няма, там беспаветраная прастора.

Сямён дапытліва паглядзеў на мутнае неба.

— Дык гэта-ж самае «нічога», — сказаў ён, — гэтая беспаветраная прастора таксама бясконца цягнуцца не можа. Таксама дзесьці канчыцца... А далей што?

— Далей зусім пустата, — тлумачыла Вера, — бясконцая пустата... Бесканечнасць.

— Не можа быць на практыцы ніякай бесканечнасці, — рашуча запярэчыў Сямён, — гэта тэарэтычна, у матэматыцы, бясконца вялікія, бясконца малыя, дыферэнцыялы, дэльты ікс, ньютонаўскія флюксіі...

— Значыць, па-твойму, Ньютон дурней за цябе? — запыталася Вера.

— І Ньютон і Лейбніц па-рознаму тлумачылі сутнасць дыферэнцыяльнага вылічэння. Значыць, і самі яны не вельмі што разумелі...

— Што? Ну, ведаеш...

— Зноў спрачаюцца! — сказаў уражаны Светлавідаў. — Не падай духам, Васняцоў, твае шансы растуць! Зараз яны палаюцца.

Глеб не дачуў гэтых слоў. Ён ішоў прыбіты, смутна адчуваючы ўсю вялікую і трывалую сілу кахання, якое расцвітае, якое не прызнавала нясмелага падпарадкавання аднаго чалавека другому, якое не даравала недахопаў і не дапускала ніякіх патуранняў, — каханне, якім могуць кахаць толькі спакойныя за свой лёс людзі.

Пераклад з рускай мовы.

# ТОЛЬКІ ВЫДАТНУЮ ЯКАСЦЬ



**Марка Мінскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча шырока вядомая. Гэта старэйшае прадпрыемства нашай рэспублікі, аднаўленае і пераабсталяванае пасля вайны.**

**Цэх нумар адзінаццаць адзін з вядомейшых на фабрыцы. У ім налічваецца трынаццаць брыгад выдатнай якасці. Кожны месяц цэх выпускае звыш 50 тысяч пар мадэльнага жаночага абутку на мікрапорыстай падэшве, які карыстаецца вялікім попытам у спажыўцоў.**

**Тут працуе комсамолка Марыя Сырадоева на шпіцапараце па зацяжцы абутку. На верхнім здымку відно рабочае месца стаханаўкі. Яе прадукцыя выдатнай якасці.**

**— У адказ на клопаты партыі і ўрада, — гаворыць яна, — кожны з нас, працуючы на прадпрыемстве, якое выпускае тавары для народнага спажывання, павінен даваць прадукцыю толькі выдатнай якасці.**

**У мінулым месяцы Марыя Сырадоева выканала свой вытворчы план на 248 працэнтаў. Звыш двух норм яна дае за змену. Калектыў цэха, у якім яна працуе, абавязаўся штомесяц выпрацоўваць звыш плана тры тысячы пар абутку і сістэматычна павялічваць выпуск прадукцыі першага гатунку.**

**Марыя Сырадоева — таксама актыўны грамадскі работнік. Стаханаўка дзеліцца, перадае свой вопыт таварышам.**

**— Вось глядзі, Аня, як у мяне атрымліваецца... — павучае яна комсамолку Аню Шавейка, вучаніцу фабрычнай школы ФЗН.**

**Сваю работу Марыя Сырадоева спалучае з вучобай. Яна вучыцца ў вячэрняй школе.**

**І вось абутак трапляе ў магазін. У фірменным магазіне «Беларусьабутак» (на ніжнім здымку) пакупнікі выбіраюць чаравікі.**



Фота А. Матусевіча.
(Фотахроніка БЕЛТА.)





Сустрэча Дзяржаўнага хора Беларускай ССР на вакзале ў Херсоне.

# ПАЕЗДКА НА УКРАІНУ

У ліпені і жніўні гэтага года Дзяржаўны хор Беларускай ССР правёў гастрольную поездку на Украіну.

Цудоўны Кіеў, шырокі і глыбокі Дняпро! На высокім беразе раскінуліся цяністыя сады і паркі. Хор выходзіць на шырокую эстраду Першамайскага парка, цёпла спатканы звыш пяцітысячнай масай кіяўлян. Перад канцэртам нас прывітаў ад імя музычнай грамадскасці украінскай сталіцы заслужаны дзеяч мастацтва кампазітар П. Козіцкі. Урачыста гучыць кантата Багатырова «Глянь, ты, на стэпы» на словы Я. Коласа. А там, за рампаю, глядач, савецкі чалавек, што любіць і разумее мастацтва, чалавек, выхаваны Комуністычнай партыяй, слухае словы нашага народнага паэта, словы, якія на крыллях музыкі лунаюць і на тэатральных падмостках і праз эфір трапляюць да самых далёкіх рабочых пасёлкаў і калгасных хат:

... Партыя, ўрад наш, —
Мы ўсе адзіны —
Непераможны граніт.

Канцэрты нашага хора на Украіне якраз супалі са слаўным пяцідзесяцігоддзем Комуністычнай партыі, якая дала мір, свабоду і брацтва народам. У гэтыя юбілейныя дні мы асабліва адчувалі, што партыя вучыла і вучыць нас быць непрымірымымі ў барацьбе з праявамі буржуазнай ідэалогіі, што яна вучыла і вучыць нас выхоўваць праз вобразы мастацтва высокія пачуцці савецкага патрыятызма, пролетарскага інтэрнацыяналізма; а гістарычнымі пастановамі па ідэалагічных пытаннях яна вучыць нас стварыць новую, савецкую класічную культуру, народную, нацыянальную па форме, соцыялістычную па зместу.

Дзякуючы клопатам партыі, яе кіраўніцтву, хор наш стаў прафесіянальнай адзінкай з высокай выканаўчай культурай, аб якой пісала прэса: «Дзяржаўны хор Беларускай ССР паказаў сябе як калектыў з высока развітым пачуццём спявацкага ансамбля. Хору даступны самыя тонкія нюансы выканання; яго спеў адзначаецца чысцінёю інтанацый, цеплынёю, шчырасцю мастацкіх перажыванняў. Асабліва добра гучаць у выкананні беларускага калектыва народныя песні і напісаныя ў духу народнай песеннай творчасці харавыя творы савецкіх кампазітараў» («Кіеўская праўда», 30-VII-53 г.).

У Житоміры і Вінніцы разам з прадстаўнікамі партыйных і савецкіх арганізацый хор спаткалі піонеры і комсамольцы і горача віталі яго ў час канцэртаў. У Одэсе на сустрэчу з хорам Беларусі прышлі работнікі і студэнты кансерваторыі, члены Саюза кампазітараў, тэатральнага таварыства, прадстаўнікі капелы і філармоніі. Калектыў хора меў магчымасць пазнаёміцца з помнікамі культуры і архітэктуры горада-героя, з платанавымі алеямі, апетымі яшчэ А. С. Пушкіным, з курортамі Аркадзіі на ўзбярэжжы Чорнага мора.

У горадзе Асіпенка (былы Бярдзянск), на беразе Азоўскага мора, цёпла сустрэлі нас на вакзале прадстаўнікі рабочых заводаў і фабрык. У час канцэрта летні тэатр пад адкрытым небам быў запоўнены рабочымі, калгаснікамі бліжэйшых калгасаў, служачымі. Пасля канцэрта, як заключэнне, адбылася дэманстрацыя братняй дружбы паміж народамі Савецкай Украіны і Беларусі. Прадстаўнікі культурных арганізацый горада дзякавалі за прыезд і праслі часцей наведваць Украіну.

У Запарожжы наш хор выступіў у парку імя Т. Шэўчэнкі перад многатысячнай маладзёжнай аудыторыяй на канцэрце, арганізаваным комсамольскімі арганізацыямі горада.

Асабліва цёпла і душэўна адбываліся сустрэчы з шахцёрамі шахт трэста «Бакеева-Антрацыт», Варашылаўградскай вобласці, дзе калектыву хора і асабіста мне былі паднесены шахцёрскія лямпачкі як памяць братняй сустрэчы шахцёраў Данбаса з хорам Беларускай ССР.

Вельмі хвалюючым для нашага калектыва было наведванне брацкіх магіл маладагвардзейцаў у Ровеньках і Краснадоне. На магілу Алега Кашавога і Любы Шаўцовай у Ровеньках хорам ускладзены вянок жывых кветак. У Краснадоне наведалі магілы другіх маладагвардзейцаў, домік Алега Кашавога. Мелі спатканне з яго маткай, якая падаравала калектыву фотапартрэт шаснаццацігадовага Алега.

На канцэртах у Ровеньках і Краснадоне моладзь слухала і горача вітала нас за выкананне беларускіх, рускіх і украінскіх песень: «Радзіма мая дарагая» і «На Палессі гоман» Алоўнікава, «Закувала та сіва зозуля» Нішчынскага, «Варяг», «Вячэрні звон» — рускія народныя песні, «Рэха» Орландо ді Ласо і іншыя.

Незабыўныя сустрэчы са слухачамі братняй Украіны — рабочымі, калгаснікамі, дзеячамі культуры, піонерамі і комсамольцамі — мацуюць соцыялістычную дружбу паміж нашымі рэспублікамі, а нас натхняюць на далейшую высокую творчую працу ў імя шчасця нашага цудоўнага народа, у імя комунізма.

Р. ШЫРМА,
народны артыст БССР.



...Мы наведалі магілу Алега Кашавога і Любы Шаўцовай у шахцёрскім пасёлку Ровенькі.



Калектыў шахты № 25 г. Бакеева-Антрацыт падараваў Дзяржаўнаму хору БССР шахцёрскую лямпачку.

# СІБІРСКІ НАРОДНЫ *хор*



Нядаўна Сібірскі народны хор наведаў сталіцу Беларусі. Цёпла спаткалі яго слухачы. Усе былі ў захапленні ад велічы самабытнасці нацыянальнага мастацтва рускага народа, ад калектыва, які здолеў у сваім майстэрстве дасягнуць сапраўднай артыстычнасці.

Кіраўнік хора Елена Уладзіміраўна Калугіна падзялілася ўспамінамі аб творчым шляху калектыва.

Рознастайныя біяграфіі артыстаў хора. У яго складзе — былая даярка з соўгаса Галіна Турыгіна, цюменьская пімакатчыца Тамара Гальцова, работніца з цагельнага завода Марыя Ражкова, выхаванка рамесніцкага вучылішча Зіна Генералава, рабочы завода, сын колішняга забайкальскага ямшчыка Леанід Якімаў, калгаснік Віктар Жукаў. Больш шасцідзесяці спявачак і спевакоў, танцораў і баяністаў складаюць сёння Сібірскі народны хор. Пераважная большасць харыстаў — гэта юнакі і дзяўчаты да 23 год.

Нялёгка было два гады таму назад, калі арганізоўваўся калектыў, вылучыць з многіх соцень удзельнікаў самадзейнасці гэтую групу сённешніх артыстаў хора. І цяжка было не таму, што мала было таленавітай моладзі, а, наадварот, таму, што трэба было з-за адсутнасці вакантных месц адмаўляць вельмі і вельмі здольным, таленавітым хлопцам і дзяўчатам.

Колькі энергіі і ўпартасці патрэбна мець кіраўніку, каб за кароткі час навучыць сваіх вучняў нотнай грамаце, тэрміналогіі, спеўным прыёмам!

Вялікая і складаная праца была патрэбна таксама для стварэння арыгінальнага рэпертуара. Спявацъ трэба было так, каб адразу было відаць, што спявае не проста хор, а сібірскія песеннікі. У гэтым Елене Уладзіміраўне дапамог і 35-гадовы вопыт работы ў галіне самадзейнасці, і сустрэчы з старажыламі спявацкіх сёлаў Цюменскага, Табольскага, Круцінскага, Краснаярскага раёнаў, і знаёмства з такімі выдатнымі краязнаўцамі, як калгаснікі Мікалай Фёдаравіч Чарнакоў і Аграфена Іванаўна Прывалава. Шмат дапамаглі музеі і архівы Сібіру, вывучэнне дыялектаў, узораў і г. д.

Свае песні і танцы, карагоды, гульні, прыпеўкі хор браў з жыцця, з сібірскага побыту. Многае ў рэпертуары створана яго ўдзельнікамі. У мінулым калгасніца, а сёння артыстка Сібірскага хора Аграфена Максімаўна Аленічава стварыла больш шасцідзесяці тэкстаў і мелодый песень, у тым ліку такія, як «Прыходзьце, госці, да нас», «Як уручалі ўзнагароды», «Як за лугам, за рэчкай», «Мы пасеялі лён у лагу». А колькі захаплення слухачоў выклікалі песні «Ой, Сібір, багатае прыволле», «Полька-круцінка» Віці Жукава; «Ад сібірскіх прасторных калгасных палёў» баяніста Віктара Іванова і іншыя песні, якія нарадзіліся ў хоры!

Першыя выступленні ў Омску прайшлі вельмі добра, слухачы цёпла сустрэлі маладых выканаўцаў. Далей выступленні ў вобласці, потым па ўсім Сібіру... Нарэшце адбыліся канцэрты ў гарадах і раёнах Урала. І ўсюды Сібірскаму рускаму народнаму хору спадарожнічаў нязменны поспех.

Так праляцелі два гады напружанай працы.

Хор — удзельнік Сусветнага фестываля моладзі і студэнтаў у Бухарэсце, дзе ён з чэсцю вытрымаў свой экзамен. Прышла яго творчая сталасць.

Дыплом першай ступені і залаты медаль, уручаны хору, — гэта ўжо сусветнае прызнанне творчых дасягненняў маладога савецкага калектыва, калектыва простых савецкіх людзей з горада Омска.

У Мінску калектыў хора даў два канцэрты і паехаў у вобласці Беларусі, каб паказаць сваё майстэрства працоўным, азнаёміць іх з багатай творчасцю савецкіх народаў.

І кожны, хто слухаў яго — лаурэата конкурса на IV Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Бухарэсце, — захапляўся квітнеючай маладосцю, майстэрствам яго выканаўцаў, самабытнасцю рэпертуара і выканання і міжвольна адчуваў гордасць за нашу моладзь.

Якія неабсяжныя і шырокія шляхі адкрыты перад ёю!

І. ІНІЧ.



**На выступленні Сібірскага народнага хора. Група запявал:** (зверху, злева направа) **Галіна Турыгіна, Таіса Гронская, Тамара Гальцова, Руфіна Нікіціна, Анісся Лаўрык і Каця Міцюшына.** Унізе: **Ліда Кулікова і Аляксандр Пласцікаў выконваюць танец.**

Фота А. Дзітлава.




Адпраўка бульбы для прамысловых цэнтраў краіны ў калгасе імя Панамарэнкі Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці.

Фота А. Дзітлава.



Заатэхнік Аляксей Зубра і даяркі Ніна Дзядзюля і Іра Бардовіч.
Фота І. Стэца.

В. МАЕЎСКІ

# КАЛГАСНЫ заатэхнік

Нарыс

Аляксей на хвіліну адарваўся ад блакнота, у якім толькі што рабіў розныя вылічэнні, заклапочана глянуў на гадзіннік і жахнуўся: да пачатку сходу заставалася крыху больш двух гадзін, а работы — непачаты край. Трэба вылічыць, колькі кармоў спатрэбіцца жывёле, якую плошчу неабходна засеяць у наступным годзе кармавымі коранеплодамі і сіласнымі культурамі.

«Не прыдзеш-жа да калгаснікаў з голымі рукамі... — думаў заатэхнік. — Вось вам мае меркаванні, а вы сабе самі прыкідвайце, падлічвайце, колькі чаго трэба. Абгрунтуй навукова кожную лічбу, тады і людзі цябе зразумеюць...»

Успомніліся словы Ядвігі Ульянаўны, сакратара партыйнай арганізацыі калгаса:

— Даклад з агульных разважанняў — мёртвы. Кожны калгаснік пастановы партыі і ўрада чытаў, але як гэтыя пастановы будуць у нашым калгасе ажыццяўляцца, не кожны ведае. Твая задача ў тым і заключаецца, каб канкрэтызаваць агульныя палажэнні, зрабіць іх блізкімі, зразумелымі.

Аляксей зноў узяўся за алоўак. Прыкідваў, падлічваў, параўноўваў. Вось і дапісана апошняя старонка даклада.

Аляксей падышоў да акна. Па вуліцы ў напрамку калгаснай канцылярыі не спяшаючыся ішлі калгаснікі і калгасніцы. Аляксей праводзіў іх доўгім позіркам: стараўся кагосьці распазнаць. Але, відаць, таго, каго чакаў, не было сярод іх...

Дзесьці зусім блізка зайграў гармонік. Некалькі дзявочых галасоў падхапіла знаёмую мелодыю. «Нашы!.. З жывёлагадоўчай фермы ідуць!» — радасна падумаў Аляксей, расчэсваючы густую чупрыну.

Вясёлая грамада дзяўчат праходзіла ля яго хаты.

Прыгожы высокі голас заспяваў песню аб сустрэчы.

«Яна! Яна спявае»... — Аляксей пачаў углядацца ў акно.

Адна з дзяўчат крыкнула: «Пайшлі, заатэхнік, з намі!..»

Ён вышаў на вуліцу і пакрочыў за групай моладзі так, каб і не адстаць ад яе, і не дагнаць. Пачутыя словы песні ўсю дарогу не давалі яму спакою. «Я таксама сустрэцца быў-бы рады... — падумаў Аляксей аб Іры Бардовіч, якая запявала песню. — Толькі не так, як тады».

Сустрэча, якую прыпомніў Аляксей, адбылася больш года таму назад, дакладней — летась у жніўні, калі ён, Аляксей Зубра, з дыпломам заатэхніка прыехаў у калгас імя Кірава.

Хацелася адразу-ж пабываць на жывёлагадоўчых фермах. Проста з канцылярыі ён пайшоў туды.

Загадчык малочна-таварнай фермы Іван Ялошка, самазаспакоены і бестурботны гаспадар, скептычна паглядзеў на бязвусага юнака, холадна прывітаўся, паківаў галавой, як быццам гаворачы: «Эге-е-е! Не табе, браток, вучыць нас!»

— Чым, міл-чалавек, служыць магу? — запытаўся ён тонам, які гаварыў: «Хутчэй-бы ад цябе пазбавіцца».

— Пазнаёміцца са справамі прышоў, — коратка адказаў Аляксей, абвёўшы позіркам і загадчыка фермы, і даярак, і цялятніц.

— Што-ж, калі ласка! — загадчык пагардліва ўсміхнуўся. — Вучонаму чалавеку заўсёды рады. Дык вось, значыцца, будыніна гэтая называецца хлявом. Жывуць тут каровы...

Даяркі пырснулі смехам. Аляксей тут-жа перабіў Ялошку.

— Гэта мне вядома. Вы лепш аб распарадку дня раскажыце.

Ялошка і хацеў-бы выкруціцца, але вымушаны быў прызнацца, што ў летні перыяд жывёлаводы прыходзяць на работу, хто калі захоча.

— Загадчыку трэба было-б ведаць не толькі, як называецца будыніна, але і тое, што кароў трэба даіць у адзін і той-жа час, падкармліваць іх, правільна страўліваць выпасы. Інакш высокіх удояў малака вам не атрымаць.

— Не атрымаць? — са штучным здзіўленнем перапытаў Ялошка. — А чаму-ж, таварыш заатэхнік, нашы даяркі, — ён кіўнуў у той бок, дзе стаялі Люба Артамонава і Іра Бардовіч, — чаму яны ў мінулым годзе больш чым па тысячы літраў малака надаілі ад сваіх кароў? Здаецца, таксама, як і сёлета, і кармілі, і паілі, і даілі... Таму выбачай, таварыш заатэхнік, але тут твая тэорыя не падыходзіць!

— Больш чым па тысячы, кажаце? А дакладней?

Ялошка глянуў на адну, потым на другую даярку, стараючыся знайсці ў іх адказ на пастаўленае пытанне, але падтрымкі не знайшоў і неяк няёмка лыпнуў вачыма, прамармытаўшы сабе пад нос:

— Ат, ёсць аб чым гаварыць!..

— Мы ўжо даўно забылі пра леташнія дасягненні, — жадаючы выратаваць з няёмкага становішча свайго загадчыка, умяшалася ў размову Люба Артамонава.

— Тады пагаворым аб сёлетніх... — І Аляксей звярнуўся да другой дзяўчыны: — Вось скажыце, не ведаю, як прозвішча ваша, колькі вы сёння надаілі малака?

Даярка насмешліва глянула на заатэхніка.

— Яму, як у аптэцы, усё да грама падлічы! Таксама ву-чо-ны!.. А ці ведаеш ты, адкуль у каровы рогі растуць? Доім — і ўсё. Ніхто слова дрэннага яшчэ не гаварыў, а ён... — дзяўчына махнула рукой і пайшла.

— Вось як! Хто-ж гэта такая?

Дзяўчына, відаць, пачула. Яна азірнулася.

— Бардовіч маё прозвішча. Можаш скардзіцца.

Аляксей нахмурыў густыя бровы і, каб перавесці размову, запытаўся:

— А колькі ўсяго галоў буйнай рагатай жывёлы на вашых фермах?

— Што? Усіх?..

— Але, усіх.

— Аб гэтым у калгаснага бухгалтара спытайце. Мне за падлікі працадні не пішуць.

«Вось дык гаспадар! — падумаў Аляксей, і, хоць яму адказвалі груба, не гасцінна, ён прадаўжаў дапытвацца пра работу на ферме.

Аб навейшых дасягненнях навукі і перадавога вопыту жывёлаводы мелі цьмянае ўяўленне. Аб «зялёным канвееры» кармлення загадчык толькі чуў. Наконт круглагадавога стойлавага ўтрымання раздойных кароў даяркі разважалі, як аб нейкай «катарзе» для жывёлы. Пастухі толькі і ведалі, што пераганялі статак з месца на месца, бясапланава травілі пасбішчы. На рацыёны кармлення, асабліва маладняку, на мінеральныя падкормкі жывёлы тут проста махнулі рукой. Аб заатэхнічнай вучобе жывёлаводаў загадчык Ялошка гаварыў, як аб марнай траце часу.



Аляксей Зубра рыхтуецца да чарговых заняткаў па вывучэнню гісторыі КПСС.

Заатэхнік і загадчык фермы выйшлі з жывёлагадоўчага гарадка.

Аляксею было горка і крыўдна. Ніхто яго не разумее, і, горш таго, — разумець не хоча. Пачуццё адзіноты авалодала юнаком. Такое пачуццё — Аляксей гэта добра памятае — пражыў ён тады, калі, атрымаўшы паведамленне аб смерці яго бацькі на фронце Айчыннай вайны, мачыха сказала яму, дзевяцігадоваму хлапчуку: «Цяпер ты мне не раднія. Можаш ісці, куды хочаш...» Але і ў той, найцяжэйшы час, Алёша знайшоў падтрымку: яго прытулілі добрыя людзі, дапамаглі ў вучобе.

«І цяпер... цяпер таксама будзе падтрымка, — вырашыў юнак. — Трэба толькі прывіць любоў і павагу да ведаў гэтым, па-сутнасці, добрым дзяўчатам».

Да калгаснай канцылярыі ішлі моўчкі. Ні Аляксей, ні Ялошка не рашыліся прадаўжаць размову. І толькі ўзышоўшы на ганак, заатэхнік заўважыў загадчыку:

— А ведаеце, Іван Гаўрылавіч, аб усіх непарадках я сёння на паседжанні праўлення буду гаварыць.

Ялошка спыніўся, затым, крыху падумаўшы, рэзка павярнуў назад, буркнуў пад нос:

— Ат, слухаць цябе там нехта стане...

У гэты вечар Аляксей з Ялошкам больш не сустрэліся: загадчык фермы на праўленне калгаса не з'явіўся. Але і без яго ўсе заўвагі, якія зрабіў заатэхнік у адрас калгасных жывёлаводаў, былі прыняты. Ялошку далі тэрмін выправіць дапушчаныя памылкі.

Прайшоў месяц. На праўленні зноў разглядалася пытанне аб становішчы на ферме. З кароткім паведамленнем выступіў Аляксей. Ён прапанаваў зняць з пасады загадчыка Ялошку і прызначыць на яго месца калгасніка Кратовіча. Адначасова заатэхнік прадставіў спіс жывёлаводаў, якія жадаюць вучыцца на трохгадовых заатэхнічных курсах.

— Правільна, правільна робіць заатэхнік! — адразу-ж пачулася некалькі галасоў.

А калі за яго прапанову прагаласавалі ўсе аднагалосна, старшыня калгаса Каранец падняўся з-за стала:

— Малайчына, Аляксей! Пакомсамольску робіш. На многае ты нам адкрыў вочы.

Даяркі і цялятніцы, якіх паклікалі на абмеркаванне іх-жа пытання, пераглянуліся паміж сабой. «Відаць, зразумелі сваю памылку», — падумаў Аляксей. Ён затрымаў свой позірк на Іры Бардовіч і заўважыў, як вінавата глянула яна яму ў твар. Была гэта ўжо не тая дзяўчына, якую ўбачыў ён пры першай сустрэчы, а сур'ёзная, удумлівая...

Толькі год прайшоў з таго часу, год напружанай працы калгасных жывёлаводаў. Але і за гэты кароткі тэрмін калгаснікі пераканаліся ў вялікай сіле перадавой заатэхнічнай навукі.

Перакананне гэтае прышло не адразу. Само жыццё гаварыла аб тым, што без ведаў немагчыма далей працаваць. Аляксей толькі падказваў, накіроўваў увагу жывёлаводаў.

Аднойчы па яго прыбегла Люба.

— Бяда, таварыш заатэхнік! Каровы захварэлі!.. Сена не ядуць і малака напалову менш даваць сталі. Выклікайце ветэрынара!..

— Чакай, Люба! Можа, мы і без яго прычыну высветлім. Пойдзем на ферму!

У дарозе Аляксей падрабязна распытаў аб рацыёне, кармах, аб тым, як і калі кормяць і пояць кароў. Многае стала зразумелым заатэхніку. На ферме ён яшчэ раз праверыў сваю здагадку: прайшоў паўз стойлы, ператрос сена ў кармушках. «Так і ёсць! Не даюць жывёле мінеральнай падкормкі», — падумаў ён.

Дзяўчаты абступілі Аляксея.

— Што-небудзь дрэннае? — пыталіся даяркі.

— Дрэнна тое, што вы не выконваеце рашэнне праўлення калгаса. Забыліся пра мінеральную падкормку.

Дзяўчаты маўчалі. Яны не верылі раней, што звычайная спажыўная соль можа павысіць удоі. Заатэхнік-жа вучыў іх пакласці кавалак солі ў кармушку, каб карова магла лізаць яго для апетыту. Вось — простая рэч, а колькі непрыемнасцей прынесла!..

А як цяжка было ўвесці строгі распарадак дня!

— Што ў нас, завод? — абураліся дзяўчаты.

— Не завод, але не менш складаная вытворчасць, — адказваў Аляксей.

Ён правёў эксперымент. Тыдзень далі і кармілі кароў у розны час, другі тыдзень — захоўвалі строгі рэжым. Вынікі былі зусім розныя. Так Аляксей давёў даяркам неабходнасць захавання распарадку дня.

...Старшыня калгаса перагортвае старонкі кнігі ўліку. Па ўсіх відах жывёлы ў гэтым годзе план пагалоўя выкананы. Асобна старшыня затрымлівае сваю ўвагу на графах, дзе значацца «остфрызская парода» і «прэкос». Пры гэтым калгасны бухгалтар не без гонару заўважае:

— Гэтыя пароды мы ўжо завялі пры нашым заатэхніку!

Старшыня падае дзённікі загадчыка жывёлагадоўчай фермы Кратовіча. З іх відаць, што даяркі Люба Артамонава і Іра Бардовіч за шэсць сёлетніх месяцаў надаілі столькі малака, колькі за ўвесь мінулы год. У гэтым дае сябе знаць усё: і іх вучоба на курсах, і іх стараннасць, а галоўнае — правільны рэжым кармлення жывёлы, устаноўлены на ферме заатэхнікам.

— Ёсць у нас поспехі, — сціпла зазначае заатэхнік Аляксей Зубра. — Але не аб поспехах гаварыць нам сёння. Вунь якія вялікія задачы партыя ставіць перад намі.

З гэтага і пачаў свой даклад Аляксей Зубра. Здавалася, у дакладзе многа лічбаў. Але яны давалі яркую карціну недалёкага будучага. Перад вачыма кожнага з прысутных паўставала панарама сакавітых лугоў, плантацый сланечніку і кукурузы (іх плошчы ўжо ў будучым годзе калгас давядзе да 20 гектараў). На прывольных выпасах гуляюць статкі пародзістых кароў. Кожная карова дае па тры-чатыры тысячы літраў малака. Гурты адкормленых свіней, чароды тонкарунных авец. У вадаёмах — карагоды гусей і качак. Па гладкаму асфальту аўтастрады Слуцк — Мінск з Пяцеўшчыны, дзе размешчаны калгас-мільянер імя Кірава, імчаць грузавікі, вязуць калгаснікі свае шчодрыя дары Радзіме, народу.

— Так сказала партыя. Так і будзе!

Заключныя словы дакладчыка тонуць у громе апладысментаў.

Старэйшыя калгаснікі ідуць дамоў: заўтра рана на работу. Толькі моладзь не ведае стомы. Упрасілі старшыню дазволіць патанцаваць хоць гадзінку.

— Што-ж, на рабоце вы мяне яшчэ ніколі не падводзілі, — гаворыць старшыня. — Танцуйце сабе!..

Пары адна за другой павольна выходзяць на круг. Аляксей першы раз у жыцці ідзе ў пары з Ірай. Сёння ў Іры надзвычай добры, вясёлы настрой.

— А памятаеш, Аляксей, нашу першую сустрэчу? — пытае яна, вінавата ўсміхаючыся.

— Памятаю, — адказвае ён. — Ну і раззлаваўся-ж я тады на цябе...

— Як успомню цяпер, проста сорам! Думала, вось балбатун нейкі... Ні аднаму тваіму слову не верыла.

— А цяпер?

— Цяпер ты бачыш і сам...

Аляксей Зубра вызначае даўжыню поўсці ў авец пароды «прэкос», якія будуць паказаны на раённай сельскагаспадарчай выстаўцы.



Г. ВАСІЛЕЎСКАЯ

# СЕЛЬСКІ КІНОМЕХАНІК

— Кіно прыехала! Кіно прыехала! — крычалі вясковыя хлапчукі і беглі следам за машынай.

Машына, не прыцішаючы ходу, мінула маслазавод, пошту, сярэднюю школу і спынілася каля клуба. Кіномеханік Саша Знахарэнка пабег шукаць загадчыка, а матарыст, Саша Рэцінскі, пачаў аглядаць матор машыны.

Дапытлівыя хлапчукі абступілі яго.

— Якая карціна будзе? А колькі ў ёй частак? Ці прывезлі кіначасопіс? — цікавіліся яны.

І не паспелі яшчэ з'явіцца афішы, а ўжо ў другім канцы калгаса імя Жданава ведалі: сёння будуць паказваць фільм «Вясна ў Маскве».

...Асенні вечар непрыкметна апускаецца на зямлю. Здаецца, толькі што над рэчкай стаяла сонца і яго касыя прамені залацілі грабяні хваль, а вось падкралася ўжо, агарнула вёску цемра.

Каля клуба сабралася моладзь. У памяшканне не заходзяць. Рана. Чуюцца жарты, смех. Але вось з клуба даносяцца гукі радыёлы. Хлопцы і дзяўчаты ўваходзяць у клуб, пачынаюць танцаваць.

Да пуску карціны ўсё падрыхтавана: прагледжана апаратура, устаўлена ў касетніцу плёнка, праверана гук. Саша Знахарэнка стаў ля дзвярэй: зараз ён — кантралёр.

— Саша, калі «Свінарку і пастуха» прывязеш? — бойка пытаецца дзяўчына.

— А што, у вас сваіх мала? — адказвае Саша.

— Не, я сур'ёзна, ты-ж абяцаў!

— Прывязу, прывязу... На гэты раз не было на базе, — супакоіў Саша.

— Не слухай гэтую сакатуху, — умешваецца ў гутарку жанчына. — Ім-бы ўсё жартачкі глядзець! Лепш прывязі «Любоў Яравую».

Дзяўчына не крыўдзіцца. Ведама, старая ва ўсё ўмяшаецца!.. А карціны, яна ведае, будуць і адна і другая.

— Глядач цяпер патрабавальны пайшоў! — гаворыць Саша. — Абы які фільм не вязі... Асабліва пераборлівыя старэйшыя. Усё яны хо-

чуць ведаць, усім цікавяцца. «Ты, кажуць, нас павінен з усімі тэатрамі краіны пазнаёміць. А то, можа, самім у Маскве і не давядзецца пабыць». А ўжо без часопісаў і не паказвайся!..

Саша вельмі чула ставіцца да пажаданняў калгаснікаў. Яшчэ не было выпадку, каб ён не выканаў іх просьбу. Прывозіў «Беспасажаніцу», «Два байцы», «Сакратара райкома», «Вяртанне Васіля Бортнікава», прывозіў усё, аб чым яго прасілі. Праўда, даставалася гэта не без цяжкасцей. Не заўсёды ёсць такая карціна, якую просяць. А там, пакуль уключыш у план, праходзіць многа часу. Тады Саша пачаў браць адразу два кінофільмы, за адны суткі пускаць у калгасе аж дзве карціны: адну для дзяцей, другую для дарослых.

Копій у абласным кінапракаце мала, асабліва новых фільмаў. Саша часам абураецца. Спачатку абслугоўваецца Гомель, Рэчыца, Жлобін, потым усе стацыянарныя кіноўстаноўкі, а перасоўка — у апошнюю чаргу. Прыходзіцца змагацца, даказваць. Калгаснікі — народ пісьменны, газеты чытаюць, радыё слухаюць, усе навіны ведаюць. Сорамна ім везці старую карціну. Вось і з фільмам «Пяюць жаваранкі» таксама валакіта будзе... Попыт-жа на карціну вялікі. «Прыдзецца сур'ёзна пагаварыць...» — думае Саша і заглядае ў залу. Там многа народу. Час пачынаць. Саша Рэцінскі ўключае рухавік. Запрацаваў матор. Далёка чуваць яго гулкі рокат. Гэта апошняе папярэджанне тым, хто яшчэ затрымаўся дома.

І вось у зале гасне святло. Але на экране не кадры фільма, а ад рукі напісанае «Пазнаеце?» За ім паяўляецца карыкатура: жанчына з вялікім кошыкам. Яна боязна аглядаецца на калгаснікаў, якія ідуць працаваць на поле. І надпіс: «Праца не воўк, у лес не ўцячэ. А памідоры сапсуюцца».

Усе пазнаюць адну з калгасніц. У зале смех.

Яшчэ і яшчэ кадры, і вось ярка ўспыхваюць электрычныя лямпачкі. Дэманстрацыя светавой газеты закончана.

Саша Знахарэнка прыслухоўваецца, гледзячы ў залу. Вось жанчына, размахваючы рукамі, нешта даказвае сваёй суседцы. «Ці не пра яе гэта? — думае Саша і глядзіць на Сяргея Балачкова — загадчыка клуба. У таго такі выгляд, быццам ён ніякага дачынення не мае да гэтай светавой газеты. Саша ўсміхаецца. — Хітры!..»

Зноў гасне святло. Пачынаецца фільм.

...Позна ўвечары над прыціхшым калгасам гучыць песня. Спяваюць дзяўчаты.

Моладзь вяртаецца дадому...

Склаўшы ў машыну ўсю апаратуру, адпраўляюцца адпачываць і абодва Сашы.

Саша Знахарэнка, дэмабілізаваўшыся, прыехаў пагасціць да сястры ў Мінск. Тады ён яшчэ не ведаў, чым будзе займацца. За плячыма было восем класаў і добрая армейская школа. Яна навучыла яго дысцыпліне і працавітасці. І чым-бы ён ні заняўся, адчуваў — працаваць будзе добра!

Кіно ён любіў. Любіў нават па некалькі разоў глядзець адну карціну. Яму тады і ў галаву не прыходзіла, што праз некаторы час ён таксама возьмецца за ручку кіноапарата.

Аднойчы, ідучы па Мінску, ён заўважыў ля дзвярэй аднаго дома надпіс «Школа кінамеханікаў». Зайшоў. У школе быў перапынак. Юнакі яго ўзросту, таксама з камсамольскімі значкамі на грудзях, хадзілі па калідоры.

Саша рашуча накіраваўся да кабінета дырэктара.

Праз дзевяць месяцаў у марозную студзеньскую раніцу Сашу Знахарэнку ўручылі дыплом кінамеханіка. На пытанне, дзе яму хочацца працаваць, адказаў: «На радзіме, на Гомельшчыне». Саша ведаў, што ў яго роднай вёсцы Чырвоны бераг яшчэ няма стацыянарнай кіноўстаноўкі.

— Буду працаваць на кінаперасоўцы, — цвёрда дадаў ён.

Першыя два гады прайшлі непрыкметна. Радасна сустракалі яго калгаснікі. Саша ганарыўся сваёй прафесіяй і працаваў з натхненнем.

За добрую працу Міністэрства кінематаграфіі СССР узнагародзіла Сашу Знахарэнку ў 1951 годзе ганаровай граматай «За лепшую кіноперасоўку», а Міністэрства кінематаграфіі БССР у наступным годзе — граматай «За перавыкананне паўгадавога плана».

Потым Сашу перавялі на новы маршрут, які лічыўся цяжкім. Цяжкасць гэтая заключалася і ў тым, што веснавыя паводкі псавалі шляхі, і ў тым, што ў калгасах дрэнна працавалі клубы. Разальецца Сож, залье дарогі. Адлегласць у 6—7 кілометраў перадольваеш цэлы дзень. І на конях, і на валах, а то і проста на сабе перацягваеш апаратуру. Прыедзеш у калгас мокры, — і ў клуб. А ў клубе холадна, сыра. Памяшканне старое, дзверы ледзь трымаюцца, вокны выбіты. Вецер гуляе па зале. Вядома, у такі клуб калгаснікі не ідуць. Лекцыі ў ім не чытаюцца, вечары для моладзі не арганізоўваюцца, нават на самых лепшых фільмах маленькая зала не запаўняецца.

Спрабаваў Саша пагаварыць з загадчыкам клуба. Нічога не выйшла. Тады ён пайшоў да старшыні калгаса. Аб чым яны там гаварылі, Саша нікому не сказаў, але хутка ў клуб прызначылі другога загадчыка.

— Ты як думаеш, справы цяпер наладзяцца?

— Возьмецца за справу, зацікавіць народ — справа выйдзе. Здаецца, ён ініцыятыўны хлопец, — адказаў Саша Рэцінскі.

...Машына хутка ішла па шырокай прасёлачнай дарозе. Далёка ўперадзе паказаліся першыя будынкі вёскі Чкалава.

А вось і клуб. У ім новыя дзверы, і вокны зашклёны.

— Ці не збіраешся ты на новыя дзверы моцны замок павесіць? — пажартаваў Саша Знахарэнка, вітаючыся з загадчыкам.

Той расчыніў дзверы са словамі:

— Глядзі, як зрабілі! Цяпер справы пойдуць!

Пятрусь МАКАЛЬ

# Вершы

## ДАЛЁКА АД НЁМАНА ЦІСА

Далёка, далёка
Ад сіняга Нёмана Ціса...
Паток яе мутны шырока
У нізіне разліўся.

Гляджу я на хвалі,
Што з шумам бягуць несціхана.
Нясуць на сабе яны ў далі
Плытоў караваны.

А далі — не ў шэрым тумане:
Яны прад вачамі
Рачнымі плацінамі стануць,
Засвецяць агнямі...

Вось гэткія-ж думы
Мяне і тады хвалявалі,
Калі пазіраў я, задумны,
На Нёмана хвалі.

І зараз я, пэўна-б, забыўся,
Што я ў Закарпацці у горным,
І ўбачыў-бы, пэўна, не Цісу,
А Нёман свой зорны,

Каб толькі не гэтыя воды,
Пакрытыя пенай,
Каб толькі не горы, што воддаль
Паўсталі, як сцены;

І каб не трэмбітныя гукі,
Якія няспынна,
Калышучы лісце на буках,
Плывуць у нізіну.

## У БУКАВЫХ ЛЯСАХ

У букавых лясах
Стаіць нямая ціша:
Не чуцен птушак спеў і вецярок не дыша.

Ступі — і пад нагой
Зашэпчуць скаргу лісці,
Што восень іх страсла з галін на дол калісьці.
А дрэвы тут ствалы ўзнялі да гэткіх высяў,
Што вецці з сінявой нябеснаю спляліся.

Нам добры цень дае
З листвы шацёр бясконцы.
Ён толькі дзе-ні-дзе прашыт праменнем сонца.

У букавых лясах
Стаіць нямая ціша,
Мы пах гаючы п'ем —
Лясным паветрам дышам.
І хоць вачам маім усё тут незнаёма,
А дыхаць лёгка так,
Як у бацькоўскім доме.

## НА ГРАНІЦЫ З РУМЫНІЯЙ

Не вал і не рубеж, умацаваны
Бетоннаю ці каменнай сцяной, —
Істужка парыжэлага паркану
Уецца па-над Ціссаю-ракой.

На тым баку па цаліне вясновай
Ідуць выдатнай маркі трактары.
Закрэсліваe межы плуг сталёвы,
А з межамі — гаротны дзень стары.

Плывуць баразны ўдаль ад пералеску
І заraўноўваюць акоп былы.
З якога некалі фашысты Антанэску
Нацэльвалі гарматныя ствалы.

Сваім гудзеннем трактарны матор
Шум пагранічнай Ціссы заглушае.
Я слухаю і ўсёй душой вітаю
Свежаўзаранае зямлі прастор.

## САНАТОРЫЙ

Ля возера,
На дне даліны,
Свой шпіль узняўшы аж да зор,
Палац, спавіты зелянінай,
Стаіць, нібы вяршыня гор.

Сюды курортнікі з паўсвета
І ўлетку едуць і ўзіму.
Была-ж калісь вяршыня гэта
Даступна графу аднаму.

Маўчаць Карпаты задуменна,
На схілах слухаюць лясы
Не ўздыхі графаў ці баронаў,
А моў братэрскіх галасы,

Якія тут, ля горных высяў,
У гэтай дальняй старане,
У песню дружную спляліся,
Што несціхана ўдаль імкне.






# Кузня заатэхнічных кадраў

**Шэсць год існуе Шчучынскі заатэхнічны тэхнікум Гродненскай вобласці. За гэты час з яго аудыторый вышла 437 спецыялістаў — заатэхнікаў сярэдняй кваліфікацыі. У тэхнікуме створаны ўсе ўмовы для плённай вучобы, для росту культурнага ўзроўню будучых спецыялістаў сельскай гаспадаркі. У распараджэнні студэнтаў добра абсталяваныя кабінеты агульнай заатэхнікі, хіміі, агранаміі і іншыя. Свае тэарэтычныя веды студэнты паглыбляюць на практыцы ў вучэбнай гаспадарцы тэхнікума. Сярод студэнтаў праводзіцца вялікая культурна-масавая работа. Звыш двухсот чалавек займаецца ў мастацкім, танцавальным, музычным і харавым гуртках. Яны выступаюць з канцэртамі мастацкай самадзейнасці ў калгасах раёна, праводзяць лекцыі, даклады і гутаркі на розныя тэмы.**

На здымках: **1. Выкладчык агульнай заатэхнікі А. А. Хамдожка праводзіць занятк на трэцім курсе. 2. Выкладчык хіміі, комсамолка Т. Ф. Ганчарова** (злева) **кансультыруе студэнтаў. 3. Група комсамольцаў—выдатнікаў вучобы:** (злева направа) **Н. Вашкевіч, Г. Літвін, В. Лебедзеў і Ф. Даўгашый. 4. Дырэктар тэхнікума, выкладчык па каняводству Парфірый Мацвеевіч Фралоў** (справа) **праводзіць занятк ў вучэбнай гаспадарцы. 5. Выпуск насценнай газеты. 6. Музычны гурток рыхтуецца да чарговага канцэрта.**

Тэкст і фота П. Наватарава. (Фотахроніка БЕЛТА.)













**Хор сяла Тонеж Тураўскага раёна. Кіраўнік хора заатэхнік Ф. М. Кацэвіч.**

**Адам РУСАК**

# Песні ПАЛЕССЯ

Сонца ўжо нізка схілілася над маляўнічым возерам, калі наша машына спынілася каля будынка сельсовета ў вёсцы Лелікава Дывінскага раёна. Пакуль старшыня сельсовета размясціў нас на начлег, — пачало змяркацца. Дзесьці за вёскай парушыла вячэрнюю цішыню песня. Мы выйшлі на вуліцу і пачалі прыслухоўвацца. Песня чулася ўсё бліжэй і бліжэй. Гэта вярталася з сенакосу моладзь.

Неўзабаве брыгада ўвайшла ў вёску. Перад намі ішлі дзяўчаты і хлопцы ў вышываных беларускім арнаментам кофтах і кашулях, з граблямі і косамі на плячах. А песня звінела з яшчэ большым уздымам:

**Ой, дзяўчына мая,**
**Ружовае зелле,**
**Любіў цябе змалку,**
**Прашу на вяселле.**

Моладзь вярталася з працы з песняй, і нікому з іх, вядома, няўцямкі было, што да іх у Лелікава прыехала з Мінска Рэспубліканская фальклорная экспедыцыя, каб пазнаёміцца з іх песнямі.

Кіраўнік экспедыцыі, заслужаны дзеяч мастацтва БССР Г. І. Цітовіч паездзіў нямала па Беларусі і запісаў нямала народных песень. Звычайна ён накіроўвае экспедыцыю ў далёкія, глухія, як гаварылася раней, куткі рэспублікі. І цяпер мы не памыліліся, прыехаўшы ў далёкае палескае Лелікава. Два вечары запісвалі мы песні ў лелікаўскай моладзі.

Даўно ўжо няма на свеце сведкаў прыгону, а песня, складзеная ў той час, жыве і дагэтуль:

**У нашага аканома**
**Белыя анучы,**
**Заплакалі лелікаўцы,**
**З паншчыны ідучы.**

Дваццаць год Заходняя Беларусь знаходзілася пад панскай Польшчай. Працоўныя змагаліся з панамі. У 1937 годзе, падаўляючы паўстанне навакольных сялян, белапольскія жандары забілі комсамолку Хрысціну Канцэвіч з вёскі Повець Дывінскага раёна. Павяцяне склалі песню аб сваёй гераічнай зямлячцы:

**Стаіць явар над вадою,**
**Аж вада сінее,**
**Пад яварам зеляненькім**
**Комсамолка млее.**

**Ой, ішла ў бой комсамолка**
**Ды не адступала,**
**Пакуль яе фашыстоўска**
**Куля не спаткала.**

**Як пачулі комсамольцы**
**У комсамольскім войску,**
**Узброіліся, пайшлі лесам**
**Шукаць комсамолку.**

**— Ой, вы, хлопцы-комсамольцы,**
**Што маю казаці,**
**Пра маю пра смерць дзявочу**
**Ды не знае маці.**

**Ой, як будзе мая маці**
**Пра мяне пытаці,**
**То скажыце, — пайшла дочка**
**У лес пагуляці.**

**Скатавалі маё цела,**
**Запілі крывёю,**
**Будзе, будзе, паны, ліха**
**Ад майго вам роду.**

Глыбокай, кранаючай душу мелодыяй надзяліў народ гэтую песню.

Г. І. Цітовіч не толькі збірае народныя песні, ён распаўсюджвае новыя песні там, дзе іх яшчэ не ведаюць. Так было і ў Лелікаве, дзе ён развучыў з моладдзю некалькі новых песень. Цёпла, па-сяброўску, развіталіся мы з лелікаўцамі. «Абавязкова яшчэ наведаю Лелікава, — сказаў Цітовіч. — Тут невычарпальная крыніца песень».

Ад Лелікава наша дарога ляжала праз Дывін і Кобрын у Пінскую і Палескую вобласці.

Не абняць вокам зялёных прастораў Пінскай нізіны! Тут цяпер магутныя экскаватары чэрпаюць векавечную гніль пінскіх балот. Паўзуць канавакапацелі, па канавах сцякае вада, а дзяўчаты спяваюць частушкі:

**Асушу я ўсё балота,**
**Пралажу дарожкі,**
**Прыхадзі ка мне, мой мілы,**
**Не прамочыш ножкі.**

**Асушу я ўсё балота,**
**Асушу вадзіцу,**
**Прыхадзі ка мне, мой мілы,**
**Сеяці пшаніцу.**

Начаваць спыняемся ў сяле Гародня Столінскага раёна. Тут жывуць ганчары. Амаль на кожным двары каля хаты стаяць печы, у якіх абпальваюць розную гліняную пасуду. І тут народ спявае многа і весела. Уранні, яшчэ не апала раса, а за сялом ужо звініць песня «Прывітанне Маскве». Гэта жанкі выйшлі на жніво.

Амаль ад самага Буга да Дняпра працякае найбольшая рака Палесся — Прыпяць. Па ёй ідуць параходы, баржы, плыты палескіх сосен і дубоў. Прытокі Прыпяці выцякаюць з тарфяных балот і нясуць з сабой чорную тарфяную муць, і вада Прыпяці цёмнабурая.

Недалёка ад прыстані стаіць невялікі старадаўні горад Тураў. Пры Тураўскім доме культуры арганізаваны хор, якім кіруе самадзейны кампазітар-баяніст Мікалай Бяспалаў. Яго песні «Сабраліся хлебаробы», «Беларусь» і іншыя ўвайшлі ў рэпертуар хора, яны напісаны з глыбокім пачуццём, мелодыя іх напеўная, шырокая.

Над высокім абрывам, каля Дома культуры горада Петрыкава, стаіць помнік знатнаму сыну Палесся, славутаму патрыёту дзеду Талашу. Магіла Талаша на петрыкаўскіх могілках агароджана белымі балясамі, на магіле растуць кветкі, на невялікім белым помніку вылеплена скульптура і зроблен надпіс — «Дзед Талаш, 1844—1946». Сто два гады пражыў Талаш, ён бачыў яшчэ паншчыну. На жаль, ні петрыкаўскі хор, ні хор вёскі Белкі, дзе кіруе хорам праўнучка дзеда — Ганна Талаш, не стварылі да гэтага часу песні пра свайго славутага земляка.

У гады Айчыннай вайны па Палессі партызаніў атрад Каўпака. Вялікай папулярнасцю карысталася ў каўпакоўцаў песня:

**Далеко в горах карпатских,**
**Где кустарники шумят,**
**Пробирался тёмной ночью**
**Санитарный наш отряд.**

Гэтую песню склаў камандзір атрада разведкі, жыхар сяла Букчы Міхась Юркевіч. Яна карыстаецца вялікай любоўю ў народа і асабліва ў букчанцаў. Але да гэтага часу ў букчанскага хора няма кіраўніка, аб гэтым яшчэ не паклапаціўся Палескі дом народнай творчасці.

Хор сяла Тонеж налічвае больш 50 чалавек. Кіруе хорам заатэхнік Феня Кацэвіч. Адна з мясцовых песень — «Там за цёмным лесам» — расказвае аб тым, як два героі — бацька і сын — вярнуліся з вайны дадому, а маці іх не пазнала:

**Скажы нам, гаспадыня,**
**З каторых пор ўдава.**
**— У сорак першым годзе,**
**Як пачалась вайна.**

І далей:

**Я мужа не пазнала —**
**З сівой ён галавой,**
**Я сына не пазнала,**
**Што слаўны ён герой.**

Заслужанай увагай Тонежскага хора карыстаецца жартоўная народная песня «Бычок»:

**Ой, ды прадай, бабушка, бычка.**
**Ой, ды прадай, бабушка, бычка.**
**Вот бычка, вот бычка,**
**Вот бычка, бычка, бычка.**
**— Ну, якога? — Серага.**
**— Ён у мяне серы, серы,**
**Падмятае хату, сені,**
**Ён у мяне палавой,**
**Ён у мяне дарагой,**
**Яго не прадам.**

Палескую песню можна пазнаць па яе стылю і характару. Яна шырокая, працяжная. Мелодыя песні задушэўная і глыбокая. Яна складаецца з трох-чатырохгалосся і сведчыць аб высокай песеннай культуры народа.

Тысячы дарог злучаюць сёлы і вёскі, раскінутыя між палёў. Не аб'ехаць іх усіх, не абыйсці... А ў кожнай вёсцы, у кожнай хаце жыве песня!

## Стаіць явар над вадою...

Словы і музыка народныя.

ММ ♩= 78

Ста - іць я - вар над ва - до - ю, аж ва - да сі - не - е. Пад я - ва - рам зе - ля - нень - кім ком - са - мол - ка мле - е. Пад я - // - мол - ка мле - е.

# Кніжная паліца

## Апавяданні Кузьмы Чорнага

Таленавіты пісьменнік, Кузьма Чорны (1900—1944 гг.) пакінуў шмат выдатных твораў, якія трывала ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры.

Нядаўна Вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР выпусціла зборнік апавяданняў Кузьмы Чорнага.

Кніга адкрываецца раннімі творамі — «На пыльнай дарозе»,




«Буры», «Начлег у вёсцы Сінегах». Гэта маленькія навелы-мініятуры аб гадах грамадзянскай вайны, трапныя замалёўкі, падaныя жывой і сакавітай мовай. Ужо ў гэтых навелах намячаюцца асновы творчага метада Кузьмы Чорнага: спакойны эпічны тон апісання з цёплым лірызмам, тонкі аналіз пачуццяў і думак герояў, скупы, але каларытны пейзаж.

Актуальную тэму дапамогі горада калгасу ў пасяўной кампаніі вырашае Кузьма Чорны ў апавяданні «Рамонтная брыгада». Кадравыя рабочыя чыгуналіцейнага завода прыехалі дапамагчы калгаснікам адрамантаваць плугі перад веснавой сяўбой. Колішні вясковы каваль, а зараз рабочы Броня Казакевіч бачыць новае на вёсцы. На пяты дзень працы брыгады адбываецца пералом у свядомасці сялян-аднаасобнікаў, якія падаюць заявы ў калгас.

Калгаснай вёсцы прысвечана і апавяданне «Сцяпанавы дзеці». Супроцьпастаўленнем гэтаму шчасліваму жыццю з'яўляецца доля адзінаццацігадовай дзяўчынкі Люсі-Дарагусі ва ўмовах панскай Польшчы. Якое неаднолькавае жыццё дзяцей двух Сцяпанаў — калгасніка і панскага парабка, які нават не мае солі, каб пасаліць страву для хворай дачкі!

У кнізе чытач знойдзе некалькі апавяданняў пазнейшага часу. У іх пісьменнік паказаў радавых совецкіх людзей — патрыётаў свяёй Радзімы — у дні Айчыннай вайны, для якіх існуе толькі барацьба і гераічная смерць больш жаданая, чым жыццё ў няволі.

Самым цікавым творам з гэтага зборніка з'яўляецца «Вялікае сэрца». Пархвен Катлубовіч — гэта вобраз звычайнага совецкага чалавека, высокародны характар і патрыятычнае пачуццё якога праявіліся ў гады цяжкіх выпрабаванняў. У гэтым вобразе Кузьма Чорны паказаў маральна-палітычны рост за гады совецкай улады чалавека старэйшага пакалення.

Аповесць «Насцечка» яшчэ не знайшла заслужанай увагі ў нашай літаратурнай крытыцы і педагагічнай літаратуры. Гэта хвалюючы і актуальны твор аб выхаванні совецкіх школьнікаў, аб прывіцці ім любві да працы і вучобы, павагі да старэйшых; аб тых заганах, якія нясе з сабой патуранне капрызам дзіцяці. Насця Закрэўская і Серж — гэта ўвасабленне двух розных шляхоў выхавання, адносін да жыцця і працы.

Зборнік Кузьмы Чорнага адрасаваны юнаму чытачу, які з цікавасцю прачытае і спадабае гэтую кнігу.

**С. АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

---

## Невядомы здымак Цёткі

Цётка (Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч) — першая беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка — выступіла на літаратурнай і грамадскай арэне ў гады падрыхтоўкі першай рускай рэвалюцыі 1905 — 1907 гг. Яе зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская» створаны ў гэтыя бурныя гады. Яшчэ з маленства пазнала яна галечу і беспрасветную цемру прыгоннай вёскі. Яна ўбачыла, як побач з багаццем памешчыкаў усюды панавалі голад, бяспраўе, забітасць селяніна-працаўніка. Казкі аб марах і імкненнях народа да шчасця, песні вясковых дзяўчат аб горкім лёсе селяніна запалі ёй у сэрца, абудзілі ў яе жаданне зрабіць мары яваю, дапамаглі ёй яшчэ ў ранні перыяд жыцця ўсвядоміць неабходнасць барацьбы супраць невыноснага прыгнёту эксплуататараў.

У 1905 — 1907 гг. паэтэса прымала самы актыўны ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях працоўных. Яе палымяныя вершы выдаваліся ў выглядзе нелегальных пракламацый і адозваў соцыял-дэмакратычнымі арганізацыямі. Цётка зрабіла сваю мастацкую творчасць магутнай палітычнай агітацыяй за рэвалюцыю. Яна жадала прыходу та-



го часу, калі беларускі народ у братэрскай сям'і народаў Расіі скіне ланцугі прыгнёту і даб'ецца вольнага і шчаслівага жыцця.

З Галіцыі, куды паэтэса вымушана была эміграваць пасля 1907 года, яна пад прозвішчам свайго мужа Кейрыс нелегальна некалькі разоў прыязджала на Беларусь і ў Пецярбург, дзе разам са студэнтамі-землякамі наладжвала спектаклі на беларускай мове, канцэрты. Апранутая ў нацыянальнае ўбранне, Цётка дэкламавала свае вершы, у якіх заклікала моладзь аддаць усе свае сілы барацьбе за вызваленне.

На здымку, які нядаўна знойдзены ў архіве, паэтэса (справа) сфатаграфавана ва ўбранні, у якім выступала на аматарскіх спектаклях.

**В. САСАНОВІЧ.**

---

Багдан ЧАЛЫ

## Балада пра жывога МАНЕКЕНА

Мал. С. Раманава.

У Лондане, на вуліцы шумлівай,
дзе вопраткі дзіцячай магазін,
хлапчук вачыма сінімі маўкліва
глядзіць на плынь натоўпу і машын.
Стаіць ён у вітрыне нерухома,
прахожым ён здаецца нежывым.



Ён — манекен.
Для продажу, вядома,
адменнейшая вопратка
на ім.

А за прылаўкам —
крамнік устрывожан:
яго тавар высокае цаны.
І лае моўчкі гаспадар прахожых,
бо не купляюць вопратку яны.
Ды вуліцай,
якраз міма дзвярэй,
сэр Ласкі
з сынам ехаў,
багацей.
Сумотна
вокал глянуў
панскі сын:
за шклом аўтамабіля —
магазін...
Да бацькі ён:
— Купі мне паліто!..




Адразу
супыняецца аўто.

З машыны
ўдвух
павольны
робяць крок —
сэр Ласкі
і распешчаны сынок.

Вітрына...
Кажа бацька:
— Глянь-жа, Бен,
ён, бачыш,
твайго ўзросту —
манекен.

Мы знімем
палітон
з яго плячэй —
ён будзе на табе
сядзець ямчэй!
Падумаў Бен...
— Скажы, татуля, мне,
хлапчына гэты —
пудзіла ці не?
Хацеў-бы я
ўшчыкнуць яго
за нос! —
і тварам да вітрыны
Бен прырос.
Знянацку
Бен падскочыў,
смеючыся:
— Ён лыпае вачыма,
падзівіся!
І праўда:
манекен пачырванеў,
і запаліў
у хлопца вочы
гнеў.
З пагрозаю ўзнялася
на сынка
худая
манекенава рука:
— Не пасміхайся, пане! —
чуе Бен. —
Я хлопчык,
не сапраўдны манекен!
За морам,
у далёкай старане,
забілі майго бацьку
на вайне.
І рана
страціў матку я сваю.



На хлеб тут зарабляючы,
стаю! —
Яшчэ ён штосьці вымавіць хацеў,
ды гаспадар,
як ястраб,
наляцеў.
Пад кулаком
хіснуўся манекен.
Сэр Ласкі
сыну кажа:
— Пойдзем, Бен!

Гучаць на вуліцы паўночнай крокі.
Дзіцё ў бядзе сабе шукае шлях:
работу страціў
хлопчык сінявокі...
Ужо не ў паліто,
а ў рызманах...
Машын сірэны. Палісменаў крыкі.
Куды-ж ісці бяздомнаму ўначы?
Ды шэпча хлопчык:
— Вырасту вялікі —
усіх паб'ю вас,
гады багачы!

Пераклаў з украінскай мовы
Анатоль ВЯЛЮГІН.



# СТУДЭНТЫ Ў ЧЫГУНАЧНАЙ ФОРМЕ

Ледзь толькі было абвешчана аб стварэнні ў Гомелі новага інстытута, як сюды з усіх канцоў краіны хлынулі пісьмы. Сотні юнакоў выказвалі жаданне вучыцца ў Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. Некаторыя з іх жадалі наследаваць прафесію бацькоў, другія прыходзілі на транспарт проста са школы і сустракаліся з ім упершыню.



**Будынак Інстытута чыгуначнага транспарту ў Гомелі.**

Фота Ф. Бачылы.

Для інстытута адведзены адзін з самых вялікіх будынкаў горада. Старыя транспартныя навучальныя ўстановы Масквы, Ленінграда, Растова-на-Дану, а таксама прадпрыемствы дапамаглі ў абсталяванні фізічнай, хімічнай, геадэзічнай і многіх спецыяльных лабараторый і кабінетаў. Абсталяванне кабінетаў і лабараторый адлюстроўвае сённяшні дзень транспарту. Беларускі інстытут на сваіх трох факультэтах — механічным, будаўнічым і эксплуатацыйным — рыхтуе паравознікаў, вагоннікаў, работнікаў пуцявой гаспадаркі, будаўнікоў.

З першага кастрычніка тыста будучых чыгуначнікаў занялі свае месцы ў аудыторыях. Учарашнія вучні сярэдніх школ сталі студэнтамі самай маладой у краіне ВНУ. З кафедры з імі сёння размаўляюць доктар тэхнічных навук прафесар Н. І. Каракін, доктар фізіка-матэматычных навук С. А. Чуніхін, дацэнт А. А. Петрукокіч, кандыдаты навук Н. І. Тышкевіч, К. П. Шылко, В. А. Белы і другія высокакваліфікаваныя спецыялісты.

Інстытут адразу-ж пасля свайго нараджэння ўзбагаціўся яшчэ адным аддзяленнем — вячэрнім. Аб гэтым хадайнічалі мясцовыя партыйныя, савецкія і гаспадарчыя арганізацыі. Як і на стацыянар, сюды паступіла многа заяў. Многія гомельскія чыгуначнікі, якія маюць багаты практычны вопыт, вырашылі без адрыву ад вытворчасці атрымаць вышэйшую адукацыю. Дыспетчары, пуцейцы, паравозныя машыністы, дарожныя майстры, слесары і токары вечарам пасля работы прыходзяць на заняткі.

**В. СЕМІН.**

# БРАСЛАЎСКІЯ РЫБАКІ

Браслаўшчына — край азёраў. Бадай, ні ў адным раёне Полаччыны, ды і наогул нашай рэспублікі, не знойдзецца столькі водных прастораў, як тут. Адных толькі промыславых азёр налічваецца звыш 64, іх плошча дасягае 22,3 тысячы гектараў.

За апошнія гады на Браслаўшчыне створаны рад рыбалавецкіх калгасаў. Яны штогод адпраўляюць у розныя гарады нашай рэспублікі сотні тон рыбы.

Рыбакі расказваюць, што сёлета, як ніколі, багаты ўлоў рыбы ў азёрах. Нават у гэтыя дні на азёрах пануе ажыўленне: рыбакі да пачатку замаразкаў стараюцца вылавіць як мага больш рыбы.

Асаблівы энтузіязм у рыбакоў калгаса імя 17 верасня — аднаго з перадавых на Браслаўшчыне.

Ледзь узышло сонца і пад подыхам лёгкага ветру пачаў спадаць густы туман, на азёры Дрывяты, Навяты, Цно выйшлі на промысел рыбалавецкія брыгады. Ціха навокал, толькі час-ад-часу парушаецца прыглушаны ўсплёск язя. Заўважыў гэта стары рыбак Іван Васенін і сказаў:

— Глядзі, яшчэ гуляе, значыць і ўлоў будзе добры.

— Эй, Аляксандр, шырэй захватвай! — крычыць Лабецкаму Васенін, спускаючы на ваду корні, прымацаваныя да верхняй часткі невада.

Аляксандр, стараючыся як мага цішэй аб'ехаць аблюбаванае месца для запуску снасці, крыху падаўся далей, затым, як і Канстанцін Бяруцкі, Іосіф Сувік і другія рыбаловы, апусціў канец невада ў ваду. Цяпер рыбаловы разгорнутым паўкругам абхватвалі месца. Круг паступова звужаўся, рыбакі набліжаліся да берага.

Здалёку было відаць, як у кулі, пабліскваючы срабрыстай лускою, трапечацца рыба. Моцна трымаючы ў руках крыллі невада, рыбакі выцягнулі яго на бераг.

— Улоў нядрэнны... — заўважыў Васенін. — Тоны тры напэўна будзе!

Рыбакі ўвішна даставалі ляшчоў, плотак, акунёў, шчупакоў і клалі іх у плецены кошыкі. Даверху напоўненыя рыбай, кошыкі ў гэты дзень адправілі на рыбакансервавы завод. Там рыбу адсартуюць. Частка яе пойдзе на продаж насельніцтву, частка — на пераапрацоўку.

**В. ДЗЯНІСАЎ.**



**Лепшы рыбак рыбалавецкага калгаса «Чырвоная зорка» Браслаўскага раёна Полацкай вобласці Змітро Сцяпанавіч Папёнак, які за трэці квартал вылавіў звыш тоны рыбы.**



**Лаурэат Сталінскай прэміі акадэмік М. А. Безбародаў.**

# ВЫВУЧЭННЕ МАЗАІЧНАЙ КАРЦІНЫ „ПАЛТАЎСКАЯ БАТАЛІЯ“

Славуты рускі хімік М. В. Ламаносаў вядомы яшчэ і як стваральнік шырокавядомых каляровых мазаічных карцін. З іх найбольш папулярная мазаічная карціна «Палтаўская баталія». Гэты манументальны твор мастацтва шырынёй у 6,44 і вышынёй у 4,81 метра захаваўся ў будынку Акадэміі навук СССР у Ленінградзе. Хоць прайшло дзвесце год, фарбы на ім засталіся ранейшымі. Герaічны подзвіг рускага народа — разгром шведаў пад Палтавай — адлюстраваны на карціне. На яе пайшло каля мільёна кавалкаў мазаікі розных колераў і адценняў.

Вучоных цікавіла, з якіх матэрыялаў зроблены мазаічны твор, як праходзіў працэс плаўкі, у выніку якой атрымалі выдатныя смальты. Музей М. В. Ламаносава прыслаў у Мінск сапраўдныя кавалкі мазаікі «Палтаўская баталія», якія засталіся нескарыстанымі ў працэсе рэстаўрацыі карціны.

Смальта, якой ужо дзвесце год, зноў трапіла ў лабараторыю, зусім не падобную на тую, у якой яна стваралася. Рад аналізаў паказаў, што для яе вырабу М. В. Ламаносаў у большасці выпадкаў карыстаўся вокісам свінца. Гэта надавала яркасць і сакавітасць фарбам, палягчала варку шкла. Ламаносаў, выкарыстоўваючы нямногія элементы ў якасці фарбавальнікаў дасягаў рознастайнасці колераў. Напрыклад, карыстаючыся злучэннямі толькі адной медзі, ён атрымоўваў мазаіку блакітнага, зялёнага, чырвонага, карычневага тонаў.

Кафедра тэхналогіі шкла Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна, якой кіруе прафесар М. А. Безбародаў, праводжае даследаванне мазаікі Ламаносава. Збіраюцца матэрыялы для манаграфіі, у якой знойдзе адлюстраванне і гісторыя шкляной прамысловасці Беларусі.

**С. ВЯРШЫНІН.**

# СКЛАДАНЫЯ СТАНКІ

У зборачным цэху ў чаканні адпраўкі цеснымі радамі выстраіліся новенькія станкі. Адны з іх узнімаюцца амаль пад столь, другія, прыціскаючыся да зямлі, займаюць дзесяткі квадратных метраў плошчы.

Вось рэзьбанакатны аўтамат. Калектыў Гомельскага завода імя Кірава асвоіў яго выпуск зусім нядаўна.

Рабочы ўключае станок. Праходзіць адна секунда, і ў жолаб вылятае першы болт. Яшчэ секунда — другі. Аўтамат вырабляе балты з разьбой ад 16 да 20 міліметраў і даўжынёй да 150 міліметраў.

Як сапраўдны волат, выглядае даўбёжны гідрафікаваны станок маркі «74-50». На ім можна апрацоўваць дэталі вагой да адной тоны.

Папярочна-стругальныя станкі кіраўцы выраблялі яшчэ ў даўнейшы час. Але ад таго, што выраблялася, засталася, па сутнасці, адна назва, бо розніца паміж даваенным «шэпінгам» і сённяшнім станком «737» — велізарная. Новы станок прыводзіцца ў рух не механічным прывадам, а гідраўлічным. Калі на старым станку нагрузка на разец складала 1 940 кілаграмаў, то на новым яна дасягае 3 200 кілаграмаў. Апрача таго, ход паўзуна ў параўнанні са старой мадэллю павялічаны на 250 міліметраў.

У гэтым годзе завод выпускае больш 10 тыпаў розных станкоў для апрацоўкі металу. Кіраўцы ўзялі на сябе сацыялістычнае абавязацельства датэрмінова выканаць гадавы план па выпуску прадукцыі і даць звыш задання на сотні тысяч рублёў вырабаў.

Новыя станкі завода імя Кірава вядомыя не толькі ў Савецкім Саюзе. Яны экспаніраваліся на выстаўках у краінах народнай дэмакратыі.

**Н. ГАЎРЫЛАЎ.**



**Як сапраўдны волат, выглядае даўбёжны гідрафікаваны станок маркі «74-50».**



**Рабочы ўключае рэзьбанакатны аўтамат. Праходзіць адна секунда — і ў жолаб вылятае болт. Яшчэ секунда — яшчэ болт.**

